



# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

29 мая 2020 года №22 (1309)

18+


# Як пандэмія паўплывала на выпускныя

## 1757 выпускнікоў з рэгіёна засталіся без раённых святаў

старонка 2

Справа — раённы выпускны ў Маладзечне ў 2018 годзе, злева – пустыя крэслы амфітэатра ў 2020-м. Фота Настассі УТКІНАЙ і Аксаны ЯРАШОНАК.

**Адкрылі салон, таму што такога ў горадзе не было**

старонка 5



**Гараскоп**

старонка 23



**Пандэмія пакуль не ўплывае на беспрацоўе на Вілейшчыне**

старонка 3

ISSN 1991–7155




Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



# Выпускніца: «Святкаванне перанясём на люты 2021 года»

## Як сёлетняя пандэмія паўплывала на выпускныя мерапрыемствы ў рэгіёне

**Сёлета праз пандэмію значна зменяць свой традыцыйны фармат выпускныя святы.**

Апошнія званкі прагучаць 30 мая. Для большай бяспекі вучняў і настаўнікаў зробяць гэта на свежым паветры. У якой форме ладзіць выпускныя вечары, Міністэрства адукацыі рэкамендавала вырашаць кіраўнікам школ разам з бацькоўскім камітэтам. А што чуваць з выпускнымі мерапрыемствамі ў нашым рэгіёне?

### Раённых выпускных не будзе

– У Вілейцы не будзе раённага выпускнога свята, як і ўсюды. Гэта ж масавае мерапрыемства. Пасля экзаменаў выпускнікі атрымаюць атэстаты ва ўрачыстай абстаноўцы, згодна з рэкамендацыямі Міністэрства адукацыі, – адказаў на пытанне карэспандэнта начальнік упраўлення адукацыі спорту і турызму Вілейскага райвыканкама **Аляксандр Пуцэйка**.

**Колькі выпускнікоў сярэдняй школы ў рэгіёне**

| | |
|---|---|
| Маладзечна | 643 |
| Смаргонь | 236 |
| Вілейка | 221 |
| Ашмяны | 172 |
| Валожын | 164 |
| Мядзел | 144 |
| Астравец | 177 |

**Як мы даведаліся, з-за абмежавання масавых мерапрыемстваў адмянілі раённыя выпускныя святы ва ўсіх гарадах рэгіёна.**

### А што ў канкрэтнай школе

У Ільянскай сярэдняй школе імя Адама Грымаца выпускны пройдзе ў выглядзе ўручэння атэстатаў ва ўрачыстай абстаноўцы, расказаў нам дырэктар **Ігар Юшко**.

– Уручэнне атэстатаў правядзём пасля выпускных экзаменаў ва ўрачыстай абстаноўцы з захаваннем усіх мер бяспекі.

**Апошні званок зладзім на школьным двары 30 мая, у суботу, у 9:00, – адзначыў суразмоўца.**




Падчас раённага выпускнога ў Маладзечне ў чэрвені 2018 года.

### Слова – выпускніцы

Пра тое, як успрынялі навіну пра адмену раённага выпускнога выпускнікі, мы спыталі ў вучаніцы 11 класа маладзечанскай сярэдняй школы №5 **Юліі Дземідовіч**:

– Канешне, навіна пра адмену раённага выпускнога балю не парадавала ні адну дзяўчыну з класа. Шыкоўную сукенку ўжо падабрала кожная з нас. Хлопцы больш спакойна паставіліся да гэтай навіны. Як бы там ні было, мусілі змірыцца. Цешыць тое, што пасля ўрачыстага ўручэння атэстатаў адбудзецца наша выпускная фотасесія. Больш ніяк адзначаць такую важную для нас падзею пакуль не плануем. Святкаванне перанясём на вечар сустрэчы выпускнікоў у лютым 2021 года.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

# Адносімся да кожнага – нібы да свайго дзіцяці

## Педагогі санаторнай школы-інтэрната расказалі пра сваю працу

МАЛАДЗЕЧНА

**Гэта школа асаблівая. Тут педагогі не толькі вучаць і выхоўваюць, але на пэўны час замяняюць вучням бацькоў.**

### Наталля Генадзьеўна Кузняцова: мне цікава з дзецьмі ўсіх узростаў

У школе-інтэрнаце Наталля Генадзьеўна ад 1993 года. Прыгадвае, якраз вярнулася з сям'ёй у родны горад з Заходняй Сібіры, дзе некалькі год жылі і працавалі.

– Быў пачатак 1990-х – беларусізацыя. Пасля некалькіх год жыцця ў Сібіры было цяжкавата ўспамінаць мову і выкладаць на ёй, але я справілася, – разказвае педагог.

Па спецыяльнасці суразмоўца – настаўнік пачатковых класаў і географ. Вучылася ў Полацкім педвучылішчы і ў БДУ. Кажа, мама вельмі хацела бачыць яе настаўніцай.

Школьніцай я глядзела за суседскімі дзецьмі, старшакласніцай праводзіла мерапрыемствы для малодшых. Прыносіла задавальненне і педпрактыка.

Сёння педагог працуе ў чацвертым класе і выкладае геаграфію ў старэйшых.

– Мне цікава з дзецьмі ўсіх узростаў. Малодшым старaюся разжаваць так, каб усё зразумелі. Старэйшым не даюць расслабіцца, з імі трэба развівацца.

Наталля Генадзьеўна расказвае шмат цікавых фактаў пра замежныя краіны, стараецца падарожнічаць і сама, і з вучнямі.

– Калі дзеці толькі прыязджаюць да нас, гляджу на іх і думаю: якія яны ўсе незнаёмыя. Калі ж прыходзіць час і ім трэба ехаць дадому, думаю: як шкада адпускаць іх.



Наталля Генадзьеўна Кузняцова.



Мікіта Фёдаравіч Бурак.



Алена Вітальеўна Дамброўская.

### Мікіта Фёдаравіч Бурак: адразу хваляваўся, але дапамаглі калегі

Мікіта Фёдаравіч – малады спецыяліст. Пасля заканчэння геафака Гомельскага дзяржуніверсітэта імя Скарыны вярнуўся ў родны горад і стаў працаваць у школе-інтэрнаце выхавальнікам.

– Нашы абавязкі – сачыць за здароўем і жыццём дзяцей. Глядзець, каб яны выконвалі распарадак дня, займаліся самападрыхтоўкай, – расказвае педагог.

Мікіта Фёдаравіч працуе выхавальнікам у пятым класе. Заўважае, што дзеці тут больш самастойныя, чым у пачатковай школе. Але часам сумуюць без бацькоў. Не ўсім адаптацыя даецца лёгка. Таму задача выхавальніка – знайсці падыход, зрабіць усё, каб дзіцяці было добра ў новым калектыве.

Малады педагог добра памятае першы працоўны дзень. Адразу агледзеўся, запамінаў, дзе што знаходзіцца.

– 31 жніўня і 1 верасня ўжо сталі прыязджаць дзеці. Было хвалююча. Знаёміўся з дзецьмі, бацькамі. Трэба было запаўняць дакументы. Было не проста, але раіўся з калегамі, кіраўніцтвам.

Як трымаць дысцыпліну ў класе, малады педагог ведае:

– Галоўнае, дзецям растлумачыць правілы паводзін. Калі трэба, паўтарыць. Часам – і не раз. За гэтыя два гады ў мяне не было дзяцей, да якіх немагчыма дастукацца, – падсумаваў Мікіта Фёдаравіч.

### Алена Вітальеўна Дамброўская: дзеці ведаюць – я строгая, справядлівая

Алена Вітальеўна скончыла сярэднюю школу №5 у Маладзечне і паступіла на настаўніка пачатковых класаў.

– Я была мамінай дачкой. З'язджаць з дому не хацела. А ў ПТВ-135 набіралі групу настаўнікаў пачатковых класаў. Я паступіла. Праз два гады мусіла давучвацца ў Мінску, бо ў ПТВ аддзяленне зачынілі. Завочна скончыла БДПУ імя Максіма Танка, – расказвае педагог.

Працавала ў садку, настаўніцай у пятай школе. Праз некаторы час задумалася пра змену працы. Даведалася пра вакансію выхавальніка ў школе-інтэрнат. Павагалася, але пагадзілася.

**– Я ўвесь час працавала з малымі. А тут паставілі на дзявяты клас. Калі ішла на працу, трэсліся калені, – прыгадвае выхавальніца.**

Кажа, асаблівасці працы тут у тым, што выхавальнік павінны ставіцца да кожнага як да свайго дзіцяці – прасачыць, ці памылася дзіця, ці памяняла адзенне.

– Дома гэтым займаюцца бацькі. А тут мы, выхавальнікі. Правяраю дамашняе заданне, слухаю, як кожны вывучыў верш па літаратуры, – расказвае Алена Вітальеўна.

Дзеці лічаць яе строгай, але справядлівай. Бо калі яна паабяцае нешта зрабіць, то зробіць абавязкова:

– Голас павышаю рэдка. І тады ва ўсіх дзяцей вялікія вочы, бо яны не прывыклі да гэтага, – прыгадвае педагог.

Выхаванцы ведаюць: Алена Вітальеўна праўдзе для іх свята, зводзіць на экскурсію. Але для гэтага трэба добра сябе паводзіць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

УНП 600128662.

# Беспрацоўных – каля ста, вакансій – каля трохсот

## Пандэмія пакуль не ўплывае на беспрацоўе на Вілейшчыне

ВІЛЕЙКА

**Пра гэта распавялі ў аддзеле ўпраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Вілейскага райвыканкама.**



У Вілейцы.

Па словах спецыялістаў, пакуль беспрацоўных на Вілейшчыне больш не стала. Аддзел прапануе каля трохсот вакансій, а зарэгістраваных беспрацоўных – каля ста.

Хтосьці асвойвае ад аддзела новую спецыяльнасць, хтосьці адкрывае ІП. На сёння – ніякіх змен, падсумавалі ў аддзеле.

На сайце Дзяржаўнай службы занятасці на 26 мая вакансій сапраўды было дастаткова. Дзевяць працоўных месцаў чакаюць спецыялістаў на сельгаспрадпрыемстве «Першы Беларускі», што ў Людвінове. На сезон шукаюць рабочых у летнік «Лясная казка». Патрэбныя спецыялісты ў гандлёвыя, будаўнічыя, транспартныя арганізацыі, медыцыну.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

## Польшча адмяніла карантын для сезонных работнікаў з Беларусі і Украіны

Ад 22 мая ў Польшчы пашырылі спіс асоб, якім можна ўязджаць у краіну. Сярод іх з'явіліся навучэнцы і студэнты, што вучацца ў Польшчы. Акрамя таго, замежнікам, якія прыязджаюць на польскія фермы з краін-суседак Польшчы на Усходзе, дазволілі працаваць адразу пасля прыбыцця.

**Паводле polskieradio.pl.**

## Заканчваецца нераставая забарона на рыбалку

31 мая ў Мінскай вобласці заканчваецца забарона і абмежаванні на аматарскую лоўлю рыбы, якія дзейнічалі ў сувязі з нерастам.

У адпаведнасці з правіламі рыбалоўства дазваляецца лоўля рыбы з аднachасовым выкарыстаннем прылад рыбалоўства з агульнай колькасцю кручкоў не больш за пяць штук на рыбалова. Лавіць можна нахлыстовымі, паплавочнымі, кіўковымі, доннымі вудамі, спінінгамі, кружкамі, жэрліцамі, стаўкамі, калабашкамі.

Для лоўлі рыбы ў якасці прынады (жыўца) не больш за 30 штук за суткі на аднаго чалавека, дазваляецца выкарыстоўваць падхватнікі дыяметрам не больш за паўметра з памерам вочка менш за 10 міліметраў, пад'ёмныя сеткі памерам не больш за 1x1 метр і памерам вочка менш за 10 міліметраў.

Акрамя таго, дазваляецца лоўля рыбы з суднаў у светлы час сутак і лоўля рыбы рукамі.

**Васіль ПАЎЛАЎ,**
**Маладзечанская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету.**

## На малочным камбінаце – новы дырэктар

МАЛАДЗЕЧНА

Ад 19 мая на пасадзе працуе **Ірына Філіпава**, паведамілі на прадпрыемстве.

Раней на гэтым прадпрыемстве Ірына Уладзіміраўна не працавала. Нагадаем, што былы дырэктар **Юры Матус** звольніўся. Апошні працоўны дзень у яго быў 12 мая.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Як увесці жылы дом у эксплуатацыю і зарэгістраваць яго

**Асноўным нарматыўным дакументам, які рэгулюе парадак прыёмкі прыватнага дома ў эксплуатацыю, з'яўляецца Палажэнне аб парадку прыёмкі ў эксплуатацыю аб'ектаў будаўніцтва. Дакумент зацверджаны пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 06 чэрвеня 2011 года №716.**

Жылы дом уводзіць у эксплуатацыю прыёмачная камісія, якую прызначаюць мясцовыя органы ўлады. Каб камісія ўзяла дом у эксплуатацыю, неабходна мець ведамасць тэхнічных характарыстык. Афармляецца дакумент у арганізацыі па дзяржаўнай рэгістрацыі.

Для гэтага неабходна:

– падаць заяўку на выраб ведамасці тэхнічных характарыстык на жылы дом;

– унесці аванс за выкананне работ, у тым ліку і па прысваенні адраса аб'екту (пры неабходнасці);

– забяспечыць выезд спецыяліста на абмер, а таксама доступ і бяспечныя ўмовы правядзення работ па тэхнічнай інвентарызацыі жылога дома.

Ва ўстаноўлены тэрмін арганізацыя зробіць ведамасць тэхнічных характарыстык на жылы дом. Пры атрыманні гатовага дакумента трэба зрабіць даплату за выкананыя работы, калі канчатковая плошча аб'екта тэхнічнай інвентарызацыі будзе большай за заяўленую пры падачы замовы.

Неабходна таксама ведаць, што будаваць дом варта дакладна ў адпаведнасці з праектнай дакументацыяй альбо карэкціраваць яе.

Вынікам работы прыёмачнай камісіі стане дакумент, які тычыцца прыёмкі дома ў эксплуатацыю – акт прыёмкі. А раённы або сельскі выканаўчы камітэт вынесе рашэнне аб яго зацвярджэнні.

Пасля таго як вы атрымаеце вышэйназваныя дакументы, неабходна звярнуцца ў тэрытарыяльную арганізацыю па дзяржаўнай рэгістрацыі і замовіць выраб тэхнічнага пашпарта (без правядзення абследавання), а таксама дзяржаўную рэгістрацыю жылога дома.

**Ірына ЯРМОШКА,**
**начальнік аддзела тэхнічнай інвентарызацыі Маладзечанскага філіяла РУП «Мінскае абласное агенцтва па дзяржаўнай рэгістрацыі і зямельным кадастры».**

УНП 600199462.

**ЛІЧБА НУМАРА**

**20 180**

столькі чалавек нарадзілася ў Беларусі за студзень-красавік 2020 года

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 21.05 | 28.05 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.4087 | **2.4090** |
| Еўра | 2.6365 | **2.6425** |
| Злоты, 10 | 5.8001 | **5.9919** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.3319 | **3.3935** |
| Грыўня, 100 | 9.0541 | **8.9251** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **20.05** | **27.05** |
| Еўра | 2.5900/2.6500 | **2.5700/2.6700** |
| Долар ЗША | 2.3700/2.4300 | **2.3700/2.4350** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | **20.05** | **27.05** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 23,06 | **23,06** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,25** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,87 | **5,98** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,20 | **5,20** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,30 | **6,35** |
| Скумбрыя с/с, 1 кг | 10,50 | **10,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 16,80 | **16,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,35 | **1,35** |
| Алей, 1 л | 1,79 | **1,80** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,90 | **4,50** |
| Маянэз, 400 г | 2,00 | **2,00** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,85 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,85 | **1,85** |
| Агуркі, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Буракі, 1 кг | 1,70 | **1,50** |
| Капуста, 1 кг | 1,30 | **1,30** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,20 | **2,20** |
| Морква, 1 кг | 1,00 | **2,00** |
| Памідоры, 1 кг | 3,90 | **3,50** |
| Перац, 1 кг | 6,90 | **6,50** |
| Радыс, пучок | 2,50 | **3,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,50 | **1,70** |
| Часнок, 1 кг | 6,90 | **5,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 5,90 | **3,50** |
| Бананы, 1 кг | 3,50 | **3,20** |
| Вінаград, 1 кг | 6,90 | **3,90** |
| Гранат, 1 кг | 6,00 | **8,00** |
| Грушы, 1 кг | 3,80 | **3,95** |
| Ківі, 1 кг | 4,90 | **5,90** |
| Клубніцы, 1 кг | 18,00 | **14,00** |
| Лімон, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Персікі, 1 кг | 10,00 | **7,00** |
| Чарэшні, 1 кг | 15,00 | **13,00** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,99 | **2,80** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Ля вёскі Бережок браканьер налавіў рыбы на пяць тысяч рублёў

ВІЛЕЙКА

Пра гэта паведаміла афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

Раніцай 20 мая на беразе Вілейска-Мінскай воднай сістэмы, паблізу вёскі Бережок Вілейскага раёна, супрацоўнікі інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету затрымалі 35-гадовага мужчыну. Ён, выкарыстоўваючы сеткі, незаконна налавіў больш за 60 розных рыб. Шкода навакольнаму асяроддзю склала амаль пяць тысяч рублёў.

Следчыя нагадваюць грамадзянам заканадаўства, якое рэгламентуе здабычу рыбы недазволенымі спосабам, асабліва ў забаронены перыяд.

Аксана ЯРАШОНАК.

## З-за аголенага праводу загінулі два сабакі

21 мая ля асфальтавага завода ў Вілейцы двое падлеткаў выгульвалі сабак, а тыя наступілі на аголены провад і загінулі.

Як паведаміў «Рэгіянальнай газеце» намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Мікалай Мягкоў**, хлопцы вечарам гулялі з сабакамі каля асфальтавага завода. Сабакі пабеглі наперад, а потым хлопцы ўбачылі, што іх гадаванцы ляжаць мёртвыя.

Высветлілася, што сабакі наступілі на аголены электрапровад, які знаходзіўся на зямлі і цягнуўся ад электрашчыта, і загінулі на месцы. Хлопцы паведамілі дарослым пра здарэнне, а яны, у сваю чаргу, выклікалі да асфальтавага завода супрацоўнікаў РЭС і вілейскай міліцыі. Супрацоўнікі РЭС абясточылі электрашчыт.

Аддзел інфармацыі.

## Ноччу на пажары загінуў мужчына

СМАРГОНЬ

Пра пажар смаргонскім выратавальнікам паведамілі 23 мая каля 3:30.

Гараэў жылы дом у вёсцы Ябрывічы Сольскага сельсавета. Падчас тушэння пажару выратавальнікі знайшлі цела 62-гадовага гаспадара.

Агонь знішчыў гаспадарчыя пабудовы, дах і перакрыцце ў жылым доме. Прычыну высвятляюць.

Паводле МНС.




На месцы аварыі ля Вязыні.

# У аварыі ля Вязыні загінуў жыхар Маладзечаншчыны

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

**20 мая каля 14:30 ля Вязыні, што на Вілейшчыне, здарылася сур'ёзная аварыя.**

Як расказалі ў Вілейскім РАУС, за рулём машыны «Форд-Фокус» быў 29-гадовы жыхар Маладзечаншчыны. Мужчына ехаў з боку Ільі ў бок Маладзечна. Каля Вязыні аўтамабіль занесла. Ён не справіўся з кіраваннем, выехаў на правую ўзбочыну, а пасля – на поле, дзе перакуліўся. Ад атрыманых траўмаў мужчына загінуў на месцы аварыі.

Па інфармацыі РАУС, пасажыраў у машыне не было. Кіроўца не быў прышпілены рамянём бяспекі. Правоў на кіраванне машынай у яго не было.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Сутыкнуліся фура і «Додж». Загінула жанчына-кіроўца

СМАРГОНЬ

Аварыя адбылася 22 мая каля 11 гадзін на ўскраіне Смаргоні.

Паводле папярэдняй інфармацыі, 28-гадовая кіроўца аўтамабіля «Додж» выязджала з другараднай дарогі на галоўную, па якой рухалася фура.

Удар грузавіка прыйшоўся ў бок аўто дзяўчыны. Яна загінула на месцы здарэння.

Паводле МУС.

## Шасцікласнік атрымаў апёкі, калі распальваў кацёл

ВІЛЕЙКА

23 мая выратавальнікам паведамілі пра тое, што з тэрмічнымі апёкамі 5% цела ў бальніцу шпіталізавалі хлопчыка-шасцікласніка.

Паводле аператыўнай інфармацыі, знаходзячыся ў цётки ў гасцях у Заброддзі, шасцікласнік атрымаў апёкі.

**Напярэдадні стрыечны брат распальваў кацёл, а госць знаходзіўся побач.**

Пасля брат пайшоў на кухню, а хлопчык застаўся ў кацельні адзін. Затым ён паклікаў брата, і той убачыў у яго апёкі.

Брыгаду «хуткай дапамогі» выклікала мама, якой паведамілі пра здарэнне па тэлефоне. Тэхніка МНС не прыцягвалася.

Паводле МНС.

УВАГА! ВЫШУК

## Жонка заявіла ў міліцыю пра знікненне былога мужа

МАЛАДЗЕЧНА

**У міліцыю Маладзечна звярнулася 55-гадовая гараджанка, якая паведаміла пра знікненне былога мужа.**

Як расказала жанчына, 56-гадовы **Мар'ян Антонавіч Чаплінскі** раніцай 20 мая паехаў працаўладкоўвацца і знік. Мужчына, па яе словах, планаваў працаваць на ферме. Шэсць дзён ад гараджаніна няма ніякіх звестак, на сувязь з блізкімі не выходзіць. У цяперашні час пра месцазнаходжанне мужчыны нічога невядома, расказалі ў Маладзечанскім РАУС.

**Прыкметы:** на выгляд 55-57 гадоў, сярэдні паўнаты, рост 167-170 сантыметраў, шэрыя вочы, цёмна-русыя кароткія валасы. Па словах заяўніцы, у апошні час вусы не насіў. На левым плячы – татуіроўка ў выглядзе надпісу групы крыві «З адмоўная», а на левым перадплеччы – у выглядзе дзяўчыны.

**Быў апрануты** ў цёмна-сінюю зімовую куртку, джынсы, кофту ў шэра-фіялетавую палоску, сінюю шапку з надпісам чырвонага колеру, абуты ў чорныя туфлі. Пры сабе меў пашпарт, белую сумку, шэрыя гумовыя боты, ватоўку, шэры заплечнік, падушку і чырвоны плед.

Маладзечанскі РАУС перакананча просіць грамадзян, якія ведаюць нешта пра месцазнаходжанне зніклага мужчыны, паведаміць у міліцыю па нумарах **102, 8 (0176) 58-05-61, 8 (025) 997-91-18** альбо звярнуцца на адрас: **Маладзечна, вуліца Галіцкага, 23.**

Аддзел інфармацыі.

## Як трымацца бяспекі на чыгунцы

**З мэтай прафілактыкі невытворчага траўматызму на аб'ектах чыгуначнага транспарту неабходна трымацца мер асабістай бяспекі, пераходзіць чыгунку толькі ва ўстаноўленых месцах па пешаходным насціле.**

Перад тым як пераходзіць чыгуначныя пуці, пераканайцеся, што не набліжаецца цягнік.

Не карыстайцеся навушнікамі каля чыгункі.

**Катэгарычна забараняецца:**

- класці старонні прадметы на рэйкі, кідаць іх у кірунку цягніка, падлазіць пад вагоны цягніка, падымацца на дах рухомага саставу, дакранацца да электраабсталявання, знаходзіцца ў нецвярозым стане каля аб'ектаў транспарту.

Адказнасць за парушэнне правілаў бяспекі руху на чыгуначным транспарце прадугледжаная артыкулам 18.3 КоАП. Адказнасць за парушэнне правілаў карыстання сродкамі чыгуначнага транспарту прадугледжаная артыкулам 18.4 КоАП.

**Артыкул 18.3.** Парушэнне правілаў бяспечнасці руху на чыгуначным ці гарадскім электрычным транспарце

1. Падкладванне на чыгуначныя і трамвайныя пуці прадметаў, якія могуць выклікаць парушэнне руху чыгуначнага або гарадскога электрычнага транспарту, цягне накладанне штрафу ў памеры ад двух да дзесяці базавых велічынь.

5. Праход па чыгуначных пуцях або знаходжанне на чыгуначных пуцях у неналежных месцы цягне папярэджанне або накладанне штрафу ў памеры да дзвюх базавых велічынь.

**Артыкул 18.4.** Парушэнне правілаў карыстання сродкамі чыгуначнага транспарту

1. Самавольны праезд у грузавым цягніку альбо пасадка ў цягнік або высадка з яго падчас руху, альбо праезд на падножцы або даху вагона, альбо самавольны прыпынак цягніка без неабходнасці цягнуць накладанне штрафу ў памеры ад шасці дзясятых да трох базавых велічынь.

Таццяна СУБАЧ,
Маладзечанскае АУСТ.

# Адкрылі салон, таму што такога ў горадзе не было




У СПА-салоне LandSpa.

**Гаспадыня салона LandSpa ў Маладзечне Алена Аўрайцэвіч расказала, як пачала бізнес і што можа параіць прадпрымальнікам-пачаткоўцам.**

Цяпер салон – месца, дзе любы можа расслабіцца, паспрабаваць працэдуру ў кедравай бочцы, гідраванне, працэдуры догляду за целам і духам дзякуючы водаратэрапіі. Як жа ўдалося стварыць такое месца?

Алена па спецыяльнасці бухгалтар. Працавала ў гэтай сферы два гады і паралельна вучылася на масажыста.

– Мне больш падабаецца працаваць з людзьмі, а не лічбамі, – дзеліцца жанчына. – Дапамагаць іншым. Так сама сябе адчуваю лепш, і свет становіцца ярчэйшым.

### Усё пачалося з санаторыя

Задума стварыць уласны салон з'явілася, калі Алена з сястрой Наталляй паехалі ў санаторый. Адпачылі там напоўніцу і падумалі: а чаму ў Маладзечне нічога такога няма? Як бы здорава было б песціць сябе, не адыходзячы далёка ад дому?

Спачатку маладыя прадпрымальнікі не мелі нічога, пачынаць было складана. На тое, каб увасобіць мару, аддалі ўсе зберажэнні, атрымалі крэдыт. Сваякі падтрымалі і дапамаглі, чым маглі. Такая падтрымка вельмі важная, яна надавала сіл дзейнічаць далей.

Важным пытаннем быў выбар памяшкання. Шукалі амаль кожны дзень цягам паўгода. Алена на сабе спазнала, што «дарога з'яўляецца пад нагамі таго, хто ідзе».

Жанчыны склалі бізнес-план, але ён не спрацаваў і на 50%.

– Мы не дазвалялі нават думцы прамільгнуць пра адступленне, – прыгадвае Алена. – Верылі ў светлую будучыню, і вера нам аддзячыла. Такое адчуванне, што абставіны самі пад нас падладзіліся.

Алена цяпер працуе масажыстам ва ўласным салоне, Наталля – майстрам па манікюры і педыкюры.

### Асаблівасці бізнесу

Першых кліентаў найбольш зацікавілі прапановы, новыя для Маладзечна – кедравая бочка, гідрамасажная ванна.

Здараліся складаныя сітуацыі.

– Але ж яны паўсюль і заўсёды, – разважае Аўрайцэвіч. – Пытанне толькі ў тым, якія высновы мы робім і з якім пачуццём глядзім страху і праблемам у вочы. Калі ёсць глыбінная запатрабаванасць у чымсьці, умееш яе разгледзець у сабе, то нельга ні перад чым спыняцца. А поспех прыйдзе раней ці пазней.

Прадпрымальнік не лічыць, што ёсць нейкія асаблівасці ў тым, як вядзе бізнес жанчына. Хіба што больш увагі.

– Калі карабель плыве выдатна, праблемы на борце вырашаюць эфектыўна і ў тэрмін, то якая розніца, хто за штурвалам? – падсумоўвае яна.

### Персанал і рэклама

Каб падабраць персанал і знайсці кліентаў, у многім дапамагае рэклама ў сацыяльных сетках. І асабістыя якасці гаспадынь.

– У нас не проста супрацоўнікі, гэта нашы сябры. Мы як адна дружная сям'я.

Каб развіваць бізнес, можа спатрэбіцца дапамога банкаўскага крэдыту:

– Цяпер гэта актуальна, – мяркуе прадпрымальнік. – Хочам укараніць інавацыі, якія жыхары і госці Маладзечна могуць убачыць толькі за мяжой або ў санаторыях.

*Старонка падрыхтаваная ў межах сумеснага праекта «Будуем мару з «Белаграпрамбанкам».*




Сёстры Алена Аўрайцэвіч (злева) і Наталля Яраш вырашылі разам заняцца СПА-салонам.

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае


* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** |
| | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |


## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Форд-Гэлаксі, 1,9 ТДІ, 115 конскіх сіл, 2001 г.в., снежань, новае счапленне, дыскі тармазныя, акумулятар, амартызатар, выдатны салон і кузаў. Цана дагаворная. Т. (8-029) 2518409.*

• Дыскі жалезныя R14 (4x108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• Запчасткі да Аўдзі-80, 1985 г.в. Т. (8-029) 5024571.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 1236722, (8-033) 3631161.*

• Аўто ў любым стане. Можна аварыйнае. Дорага. Т. (8-033) 6612163.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на ходу для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 3-пакаёвая кватэра з участкам у Вілейцы. Т. (8-029) 1553090.*

• Дом 11x9, гаспадарчыя пабудовы на перавоз. Мядзельскі раён, а/г Крывічы. Яўген. Т. (8-01797) 43397.

• Дом з участкам 0,13 га. Падведзены газ, трох– і аднафазнае электрасілкаванне, тэлефон. Вілейскі раён, в. Ілішчавічы, вул. Цэнтральная,70, 12 500 руб. Т. +7(915) 3507738 (вайбер, вацап).*

• Дом новы ў а.г. Хожава Маладзечанскага раёна, дом гатовы да пражывання. Т. (8-029) 6678710.*

• Дом у вёсцы Папоўцы Вілейскага раёна, 20 сотак, побач лес, рака Нарач. Т. (8-029) 1739610.*

• Дом. Самаробны трактар. Маразільнік. Будслаў. (8-01729) 379-18-96.

### НАЙМУ

• Сям'я з трох чалавек ноймe дом у Вілейцы на доўгі тэрмін. Своечасовую аплату і акуратнасць гарантуем. Т. (8-044)7901790. Алена.*

## ПАСЛУГІ

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 7737451, (8-029) 8331245.*

• Бурэнне свідравін (скважын). Калонкі. Помпы. Падвод вады да дома. Наяўны/безнаяўны разлік. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450. Т. А1 (8-029) 1287878, МТС (8-029) 7860317.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. Кансультацыя бясплатная. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджы з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, установка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года**.** ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі**.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• **СПІЛОЎВАННЕ ДРЭЎ. АБРЭЗКА. ДРАБНЕННЕ ГАЛІНАК І ПНЁЎ**. ІП Таўгень. Е.П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830. Вайбер.*

• Узворванне (вспашка) і культывацыя прысядзібных участкаў. ІП Каркоцкі С.У. УНП 692246779 Т. (8-029) 7682028.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

• Чарапіца керамічная, стужачная, 3,5 тыс. шт. – 100 кв.м. Вокны на веранду. 0,9x1,5 м – 3 шт., кацёл у лазню. Т. (8-029) 1057622.*

**Бытавая тэхніка**

• Пральная машына-паўаўтамат «Санда», гарантыйная. Загрузка 7 кг, трохі б/у. Т. (8-0176) 707334, (8-029) 2622562.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Жывёла, птушка, пчолы**

• Бараны і авечкі жывой вагой, 5 рублёў за 1 кг. Т. (8-029) 6769359, Віталь.*

• Дойная карова. Ротарная касілка да матаблока. Конная касілка. Т. (8-01771) 60214, (8-029) 2582736.*

• Індычаняты БІГ-6 і кураняты бройлерныя КОББ-500. Дастаўка Т. МТС (8-033) 6908397, А 1 (8-029) 6938397.*

**Іншае**

• Кенгуру для пераноскі дзяцей (7 руб.), падагравальнік для сумесі Philips Avent (40 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Тэл. (8-033) 3668181.*

• Сена. Т. (8-029) 6870898.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-029) 2552321.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Вадзіцель з машынай і маніпулятарам на пастаянную работу (перавозка блокаў ГС). Т (8-044) 7516244 Вэлком.




**ПАДАЧА АБ'ЯЎ І РЭКЛАМЫ Ў БЛІЖЭЙШЫ НУМАР**
«РЭГІЯНАЛЬНАЙ ГАЗЕТЫ» –
**да 16:00 серады.**

Аддзел рэкламы:
(8-0176) **53-78-04** (тэл./факс),
(8-029) **676-84-20, 573-28-47.**
E-mail: **reklama@rh.by.**

**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёна:

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Астравец** | -01591, | **Вілейка** | -01771, |
| **Ашмяны** | -01593, | **Маладзечна** | -0176, |
| **Валожын** | -01772, | **Мядзел** | -01797, |
| | | **Смаргонь** | -01592. |





Фота sb.by

Ёсць змяненні ў прафесійным пенсійным страхаванні.

# Што змянілася ў прафесійным пенсійным страхаванні работнікаў сельгасарганізацый

**Сістэма прафесійнага пенсійнага страхавання дзейнічае ад 1 студзеня 2009 года і заснаваная на прынцыпе папярэдняга назапашвання сродкаў на выплату прафесійных пенсій.**

Катэгорыя работнікаў, якім належыць прафесійнае пенсійнае страхаванне, у тым ліку работнікі сельскіх гаспадарак, указаная ў артыкуле 5 Закона «Аб прафесійным пенсійным страхаванні» (Закон аб ППС).

У якасці кампенсацыі за працу ў асаблівых умовах Закон аб ППС прадугледжвае два віды прафесійных пенсій: датэрміновая і дадатковая.

Датэрміновая прафесійная пенсія прызначаецца пры наяўнасці пасля 1 студзеня 2009 года больш за паловы патрэбнага для датэрміновай пенсіі прафесійнага стажу (падпункт 2.2 артыкула 11 Закона аб ППС). Пры гэтым губляюць права на льготную пенсію ў агульнай пенсійнай сістэме.

У 2019 годзе гэта права набыла значная частка застрахаваных асоб, у тым ліку работнікі сельгасарганізацый:

– жанчыны, якія працавалі трактарыстамі, трактарыстамі-машыністамі сельскагаспадарчай вытворчасці, машыністамі будаўнічых, дарожных і пагрузачна-разгрузачных машын; мужчыны, якія працавалі трактарыстамі-машыністамі сельскагаспадарчай вытворчасці, непасрэдна занятыя ў вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі, пры прафесійным стажы не менш за 20 год у мужчын і не менш за 15 год у жанчын і стажы працы адпаведна не менш за 25 і 20 год;

– жанчыны, якія працуюць у жывёлагадоўлі (аператарамі жывёлагадоўчых комплексаў і механізаваных фермаў) і свінагадоўлі (аператарамі свінагадоўчых комплексаў і механізаваных фермаў), што выконваюць пэўныя віды работ (па пераліку), а таксама працуюць даяркамі (аператамі машыннага даення) пры прафесійным стажы не менш за 20 год.

Памер датэрміновай прафесійнай пенсіі залежыць ад сумы пенсійных зберажэнняў, якія складаюцца з унёскаў, сплачаных працадаўцам за канкрэтнага работніка да моманту выхаду на датэрміновую прафесійную пенсію, і сумы даходнасці ад размяшчэння гэтых унёскаў у банку (пункт 1 артыкула 14 Закона аб ППС). Сфарміраваныя з невысокіх унёскаў пенсійныя зберажэнні не дазвалялі прызначаць высокія прафесійныя пенсіі.

У адпаведнасці з Указам Прэзідэнта ад 17 студзеня 2020 года №15 адбыліся змяненні ў сістэме прафесійнага пенсійнага страхавання. Далі дадатковыя пенсійныя гарантыі некаторым катэгорыям работнікаў, якія маюць доўгі стаж працы ў неспрыяльных умовах працы да 1 студзеня 2009 года.

Работнікам, якія маюць права на датэрміновую прафесійную пенсію і якія да 1 студзеня 2009 года адпрацавалі не менш за палову поўнага стажу працы з асаблівымі ўмовамі працы, патрэбнага для прызначэння пенсіі па ўзросце за працу з асаблівымі ўмовамі работы або пенсіі за выслугу гадоў, замест датэрміновай прафесійнай пенсіі можа быць прызначаная адпаведна пенсія па ўзросце за працу з асаблівымі ўмовамі працы або пенсія за выслугу гадоў.

**Іншымі словамі, застрахаваныя асобы, якія адпрацавалі да 1 студзеня 2009 года не менш за палову патрэбнага льготнага стажу, маюць права на прызначэнне датэрміновай пенсіі ў агульнай пенсійнай сістэме замест датэрміновай прафесійнай пенсіі ў сістэме прафесійнага пенсійнага страхавання.**

Падпункт 1.2 пункта 1 Указа №15 прадугледжвае і павышае тарыфы ўнёскаў працадаўцаў на прафесійнае пенсійнае страхаванне ад 2021 года.

Тарыфы ўнёскаў для сельскагаспадарчых арганізацый ад 1 студзеня 2021 года складуць 6%.

Павышэнне тарыфаў унёскаў на прафесійнае пенсійнае страхаванне работнікаў, занятых у асаблівых умовах працы, дазволіць дасягнуць больш высокага ўзроўню выплат прафесійных пенсій.

Работнікам, занятым на работах з асаблівымі ўмовамі працы або асобнымі відамі прафесійнай дзейнасці, якія да 1 студзеня 2009 года адпрацавалі менш за палову льготнага (спецыяльнага) стажу або зусім яго не мелі да ўказанай даты, даецца права:

– фарміраваць датэрміновую прафесійную пенсію. У такім выпадку працадаўца будзе выплачваць за гэтага работніка абавязковыя ўнёскі на прафесійнае пенсійнае страхаванне ў бюджэт дзяржаўнага пазабюджэтнага фонду сацыяльнай абароны насельніцтва;

– выбару замест датэрміновай прафесійнай пенсіі дадатковай прафесійнай пенсіі. Дадатковую прафесійную пенсію будуць налічваць па дасягненні агульнаўстаноўленага пенсійнага ўзросту (у памеры бюджэту пражытачнага мінімуму) за кошт сфарміраваных пенсійных зберажэнняў дадаткова да пенсіі па ўзросце (артыкул 17 Закона аб ППС);

– атрымання штомесячнай даплаты да заробку замест указанага страхавання. Яе памер вызначае працадаўца, але сума не можа быць меншай за суму ўнёску на прафесійнае пенсійнае страхаванне за гэтага работніка. Гэта значыць, унёскі замест сплаты ў бюджэт дзяржаўнага пазабюджэтнага фонду сацыяльнай абароны насельніцтва на мэты прафесійнага пенсійнага страхавання будуць выплачвацца самому работніку да зарплаты.

**Маладзечанскі раённы аддзел Мінскага абласнога ўпраўлення фонду сацыяльнай абароны насельніцтва.**

# Прыйшла ў актывізм, каб уплываць і змяняць

Фота Андрэя ПАЎЛЮКА.

Каардынатар праекта #InspiredByРэгіён Вікторыя Макаранка.

**Пра свой прыход да актывізму расказала каардынатар праекта #InspiredByРэгіён Вікторыя Макаранка, якая прадстаўляе арганізацыю NSNL (Next Stop – New Life).**

> – Падумала, што гэта ваў, так класна, што ёсць актыўныя людзі, якія не проста гавораць, як усё кепска. Яны сапраўды нешта робяць, каб змяніць сітуацыю. Натхнілася і зразумела, што таксама хачу на нешта ўплываць і штосьці змяняць.
>
> – Вікторыя Макаранка.

### Як прыйшла ў актывізм

Ні ў школе, ні ва ўніверсітэце Вікторыя актывізмам не займалася, нават нічога пра яго не чула. Закончыла школу ў Оршы, універсітэт у Віцебску. Аднойчы трапіла ў праграму для актывістаў і сустрэлася з неабыякавымі людзьмі.

– Падумала, што гэта ваў, так класна, што ёсць актыўныя людзі, якія не проста гавораць, як усё кепска, – прыгадвае Вікторыя. – Яны сапраўды нешта робяць, каб змяніць сітуацыю. Натхнілася і зразумела, што таксама хачу на нешта ўплываць і штосьці змяняць.

Першым досведам у актывізме, якім дзяўчына ганарыцца, стаў удзел у штогадовым міжнародным мерапрыемстве InspiredBY для актывістаў і актывістак.

Першы каардынатар праекта **Максім** збіраў сабе каманду, Макаранка адгукнулася на прапанову. Так стала каардынатарам.

### Знаёмства з маладзечанцамі

Спярша дзяўчына шмат чула пра маладзечанскіх актывістаў ад свайго папярэдніка Максіма. Менавіта яны хутка адгукнуліся і зацікавілі, каб правесці шэраг мерапрыемстваў #InspiredByМолодечно. Атрымалася зладзіць на высокім узроўні.

> Здзівіла аператыўнасць мясцовых актывістаў і гатоўнасць працаваць хутка і добра.

З некаторымі з маладзечанцаў пазнаёмілася на мерапрыемствах, з іншымі падчас абмеркавання рабочых пытанняў.

### Ці складана актыўнічаць у рэгіёнах

На думку Вікторыі, асаблівасць рэгіёнаў у тым, што людзі менш вераць, што могуць нешта змяніць. Моладзь імкнецца ў сталіцу, бо там хутка ўсё мяняецца, становіцца больш сучасным, развіваецца.

> У рэгіёнах менш актыўных людзей. А аднаму без падтрымкі штосьці мяняць яшчэ цяжэй.

У некаторых ёсць суседзі, якія пастаянна дапытваюцца, навошта табе гэта трэба. Хаця павінны натхняць адзін аднаго і разам імкнуцца да лепшага. Таму ў рэгіёнах складаней быць актывістам.

Людзі ведаюць, чаго хочуць або чаго не хочуць. Самы просты спосаб – распытацца пра гэта. Калі чалавек сартуе смецце або клапоціцца пра веладарожкі ў горадзе, яму неабыякавая экалогія і навакольнае асяроддзе. Калі чалавек упрыгожвае двор, яго хвалюе, як ён сябе адчувае ў гэтай прасторы. Калі размаўляе па-беларуску – яго каштоўнасцю з'яўляецца беларуская культура.

### Як змяніўся актывізм з-за пандэміі

– Усё моцна змянілася, – кажа Вікторыя. – Мне не падабаецца ўвесь гэты анлайн, хаця ён таксама многае паказаў. Тыя, каму насамрэч цікавая і важная свая справа, працягваюць яе рабіць і анлайн.

Цяжэй знаёміцца з людзьмі, з якімі магчыма супрацоўнічаць або пракансультавацца. Складана атрымаць такую ж матывацыю, як ад сустрэчы вочы-ў-вочы.

### Як знайсці сябе ў актывізме

Вікторыя знайшла развіццё і ўвагу да такіх рэчаў, на якія раней і не глядзела.

– Мяне напружваюць шайбы супраць машын на тратуарах, гэта мой боль, – адказвае Вікторыя. – Чаму кіроўцы не маюць культуры паркоўкі і ставяць машыны на тратуары? Чаму гэтыя шайбы паклалі на тратуары? Атрымліваецца, у кіроўцы прыярытэт у любым выпадку? Мяркую, гэта няправільна. Калі зразумею, як гэта пытанне вырашыць, абавязкова займуся!

Калі чалавек хоча знайсці сябе ў актывізме, важна расказваць пра тое, што хочаш змяніць. Магчыма, ёсць аднадумцы, якія прайшлі гэты шлях і могуць дапамагчы. Пагрузіцеся ў пытанне, вывучайце, на што гэта ўплывае і што ты можаш зрабіць сам. Знайдзі тых, каго хвалюе гэта праблема, з камандай заўсёды лягчэй рухацца наперад.



Падрыхтавала
Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77




Артыкул створаны ў межах праекта RegiON (уключаючы рэгіён), які ў Маладзечне рэалізуецца моладзевай арганізацыяй NSNL, лакальнай камандай «Жывой Бібліятэкі» і Цэнтрам развіцця эфектыўнай камунікацыі «Жывая Бібліятэка» ў партнёрстве з Міжнароднай некамерцыйнай арганізацыяй Pact пры падтрымцы Агенцтва ЗША па міжнародным развіцці (USAID).

● СТУЖКА ТЭЛЕТЫДНЯ

# Самая абаяльная і прывабная


Фота mos.ru.

**Савецкі мастацкі фільм 1985 года рэжысёра Геральда Бежанава з Ірынай Мураўёвай у галоўнай ролі. Фільм стаў адным з самых папулярных кінастужак, знятых у часы перабудовы.**

### Сюжэт

У інжынера канструктарскага бюро НДІ **Надзі Клюевай** максімум грамадскага, але мінімум асабістага жыцця. Ёй ужо за 30, а адзінай забаўкай для яе з'яўляецца гульня ў пінгпонг са сваім старым знаёмым **Генам**, які працуе тэхнікам у тым жа НДІ і закаханы ў Надзю.

Усё мяняецца, калі Надзя выпадкова сустракае сваю школьную сяброўку **Сусанну**, якая працуе сацыёлагам. Сусанна вырашае «наладзіць жыццё» Надзі, навучыўшы яе «навуковым» метадам спакушэння. Заадно яна дапамагае ёй выбраць аб'ект атакі: выбар падае на моднага прыгажунчыка-меламана **Валодзю Смірнова** – калегу Надзі, любімца дам.

Сусанна загадвае сяброўцы запоўніць псіхалагічныя анкеты на сябе і на Валодзю, якія збіраецца «апрацаваць» на ЭВМ, зводзіць Надзю з фарцоўшчыкам, каб той апрануў яе па модзе, дае ёй інструкцыі-тлумачэнні, як паводзіць сябе і што рабіць. З-за гэтых інструкцый Надзя трапляе ў забаўныя сітуацыі. Усё, тым не менш, ідзе па плане – за выключэннем жаданага выніку – цікавасці Валодзі да яе. Замест гэтага на Надзю звяртаюць увагу іншыя яе калегі – **Лёша Прахін** і **Міша Дзятлаў**. Абодвух Надзя нават не разглядае ў якасці магчымых варыянтаў: першы занадта просты, а ў другога – сям'я.

Сусанна між тым прапануе чарговы беспамылковы сродак – запрасіць Валодзю на канцэрт **Джані Марандзі**. Аднак гэты варыянт аказваецца для Надзі абразай: Валодзя прыходзіць на канцэрт з другой дзяўчынай, і становіцца зразумела, што як жанчына Надзя яму абсалютна нецікавая. Надзя паступова прыходзіць да высновы, што ўся «навуковая» методыка спакушэння – глупства. Канчаткова пераконваецца ў гэтым пасля таго, як высвятляецца, што Сусанне здраджвае ўласны муж. Надзя зноў прыходзіць гуляць у настольны тэніс з Генам і разумее, што ён і ёсць яе лёс.

### Падбор акцёраў

Па словах рэжысёра Геральда Бежанава, **Ірына Мураўёва** надрэз адмаўлялася здымацца ў фільме. Мураўёвай сцэнарый спачатку не спадабаўся зусім. Па яе ўласных словах, у той перыяд ёй хацелася «аўтарскага кіно, удумлівага, сур'ёзнага». Замалёўкі з жыцця канструктарскага бюро здаваліся занадта дробным, чарговым савецкім фільмам пра ўдарнікаў вытворчасці. Толькі праз гады актрыса, убачыўшы фільм, прыйшла ад яго ў захапленне.

Першай прэтэндэнткай на ролю Сусанны была **Любоў Палішчук**, але яна ў гэты час была занятая. Затым ролю прапанавалі **Іне Чурыкавай**, але рэжысёру не спадабалася яе «занадта ўдумлівая» праца. Роля дасталася **Тацццяне Васільевай**, якая і сыграла сяброўку галоўнай гераіні фільма.

### Месца здымак і здымачны працэс

Здымкі фільма праходзілі ў Маскве. Кватэры і пакой у канструктарскім бюро адбудавалі ў павільёнах «Масфільма», прахадную здымалі на адным з заводаў, а ў якасці вестыбюля выкарыстоўвалі памяшканне рэальнага НДІ.

Падчас здымак карціны ў Бежанава здарыўся інфаркт з-за пастаяннага стрэсу. Па словах рэжысёра, самы вялікі канфлікт у яго ўзнік з **Аляксандрам Абдулавым** і Тацццянай Васільевай. Васільева прыйшла на здымачную пляцоўку з перафарбаванымі валасамі, чым выклікала гнеў рэжысёра. Абдулаў у разгар здымак з'ехаў на два тыдні на запраз на Сахалін.

Ні Ірына Мураўёва, ні **Уладзімір Носік** не ўмелі гуляць у настольны тэніс. Перад здымкамі сцэн ім далі час, каб навучыцца. Носік нават зламаў палец на назе падчас гульні.

**Настасся УТКІНА.**




ВОСЬМОЙ

## 8 канал

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 1 ИЮНЯ**

**7.00, 15.25, 21.10, 0.50** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 15.35** «Мульт-парад». «Рапунцель».
**7.30, 15.30, 17.20, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Х/ф **«МЫ КУПИЛИ ЗООПАРК».**
**9.40, 20.00** Т/с **«ПОСЛЕДНЯЯ СТАТЬЯ…».**
**10.30** Д/ф.
**11.00** Гороскоп.
**11.10** Х/ф **«ФОРСАЖ».**
**13.35, 17.30** Т/с **«БЕЛАЯ РАБЫНЯ».**
**14.25** Т/с **«КАМЕННОЕ СЕРДЦЕ».**
**16.00** Х/ф **«НОЧНОЙ РЕЙС».**
**17.25** «Погода».
**19.15** «Суперлото».
**19.50** «Новый враг человечества». Борьба Китая с COVID-19.
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ДОРОЖНЫЙ ПАТРУЛЬ».**
**23.25** Х/ф **«РЕЙД».**

**ВТОРНИК, 2 ИЮНЯ**

**7.00, 15.40, 18.10, 21.10, 1.25** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Рапунцель».
**7.30, 16.35, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Х/ф **«ДЖЕНТЛЬМЕНЫ ПРЕДПОЧИТАЮТ БЛОНДИНОК».**
**9.05, 20.00** Т/с **«ПОСЛЕДНЯЯ СТАТЬЯ…».**
**10.00** Д/ф «ВОДА ЖИВАЯ И МЕРТВАЯ».
**10.20** «Новый враг человечества». Борьба Китая с COVID-19.
**10.25** Гороскоп.
**10.35** Тревел-блог «Мама я уехал».
**10.50** Х/ф **«ДОРОЖНЫЙ ПАТРУЛЬ».**
**13.00, 18.15** Т/с **«БЕЛАЯ РАБЫНЯ».**
**14.40** Т/с **«КАМЕННОЕ СЕРДЦЕ».**
**15.45** «Мульт-парад».
**16.10** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа.
**16.40** Х/ф **«ШТОРМ».**
**19.55** «Поступки громче слов». Борьба Китая с COVID-19.
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«НОЧЬ ИДЕТ ЗА НАМИ».**
**23.35** Х/ф **«РЖАВЫЙ РУЧЕЙ».**

**СРЕДА, 3 ИЮНЯ**

**7.00, 15.40, 18.10, 21.10, 1.45** «Погода» + «Эрана».
**7.10, 15.55** «Мульт-парад». «Рапунцель».
**7.35, 15.50, 18.05, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.40** Х/ф **«ЛОВУШКА».**
**9.15, 20.00** Т/с **«ПОСЛЕДНЯЯ СТАТЬЯ…».**
**10.10** «Законы привлекательности».
**10.55** «Поступки громче слов». Борьба Китая с COVID-19.
**11.00** Х/ф **«РЖАВЫЙ РУЧЕЙ».**
**12.50, 18.15** Т/с **«БЕЛАЯ РАБЫНЯ».**
**14.40** Т/с **«КАМЕННОЕ СЕРДЦЕ».**
**16.20** Х/ф **«ЗАГАДОЧНОЕ УБИЙСТВО».**
**19.55** «Это Ухань». Борьба Китая с COVID-19.
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ФАВОРИТКА».**
**23.35** Х/ф **«СЕКРЕТНАЯ СЛУЖБА».**

**ЧЕТВЕРГ, 4 ИЮНЯ**

**7.00, 15.50, 19.50, 21.10, 1.05** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Рапунцель».
**7.30, 15.55, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Х/ф **«ПРИКЛЮЧЕНИЯ РАВВИНА ЯКОВА».**
**9.10, 20.00** Т/с **«ПОСЛЕДНЯЯ СТАТЬЯ…».**
**10.00** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа.
**10.20** «Это Ухань». Борьба Китая с COVID-19.
**10.25** Х/ф **«ХРАНИТЕЛИ».**
**13.05, 18.00** Т/с **«БЕЛАЯ РАБЫНЯ».**
**14.50** Т/с **«КАМЕННОЕ СЕРДЦЕ».**
**16.00** «Мульт-парад».
**16.15** Х/ф **«КАПКАН».**
**17.45** «Фешн is my профешн».
**19.55** «Мы едины». Борьба Китая с COVID-19.
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ТРИ СЕКУНДЫ».**
**23.15** Х/ф **«ИНОСТРАНЕЦ».**

**ПЯТНИЦА, 5 ИЮНЯ**

**7.00, 15.50, 19.55, 21.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Рапунцель».
**7.30, 15.55, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Х/ф **«ПАСПОРТ».**
**9.15, 20.05** Т/с **«ПОСЛЕДНЯЯ СТАТЬЯ…».**
**10.05** «Каронавирус и нервная система».
**10.55** Х/ф **«ТРИ ДНЯ НА ПОБЕГ».**
**13.00** «Мы едины». Борьба Китая с COVID-19.
**13.05, 18.10** Т/с **«БЕЛАЯ РАБЫНЯ».**
**14.50** Т/с **«КАМЕННОЕ СЕРДЦЕ».**
**16.00** Мультфильмы.
**16.20** Х/ф **«НИАГАРА».**
**17.50** Тревел-блог «Мама я уехал».
**20.00** «После эпидемии». Борьба Китая с COVID-19.
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ЗВЕЗДНЫЕ ВОЙНЫ».**
**23.40** Х/ф **«ОТМЕЛЬ».**
**1.05** «Погода».

**СУББОТА, 6 ИЮНЯ**

**7.00** Гороскоп.
**7.15** Мультфильмы «София прекрасная. История принцессы».
**8.05, 16.15** «Приколы 13-й школы».
**8.10** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа.
**8.25** «После эпидемии». Борьба Китая с COVID-19.
**8.30** Х/ф **«ЗВЕЗДНЫЕ ВОЙНЫ».**
**10.50** Тревел-блог «Мама я уехал».
**11.15** Х/ф **«ТРОПИНКА К ПРИЗРАЧНОМУ СЧАСТЬЮ».**
**14.35, 19.00, 21.15** «Погода» + «Эрана».
**14.40** Смотрим всей семьей. «Как приручить дракона».
**16.20** «Законы привлекательности».
**17.05** Х/ф **«ДЖУНГЛИ».**
**19.05** Х/ф **«БРОСОК КОБРЫ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** «Фешн is my профешн».
**21.20** Х/ф **«ФОРСАЖ».**
**23.25** Х/ф **«СВОЙ СРЕДИ ЧУЖИХ, ЧУЖОЙ СРЕДИ СВОИХ».**
**0.55** «Погода».

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 7 ИЮНЯ**

**7.00, 14.55, 18.30, 21.05** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Дорога на Эльдорадо».
**8.35, 16.35** «Приколы 13-й школы».
**8.40** Х/ф **«ЖМУРКИ».**
**10.25** «Готовь как шеф».
**10.50** «Законы привлекательности».
**11.30** Х/ф **«ТРОПИНКА К ПРИЗРАЧНОМУ СЧАСТЬЮ».**
**15.00** «Смотрим всей семьей». «Клаус».
**16.40** «Удачные советы».
**16.50** Гороскоп.
**17.00** Т/с **«СЛЕД».**
**17.40** Т/с **«КАСЛ».**
**18.35** Х/ф **«АЛАДДИН».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ОДНАЖДЫ В АМЕРИКЕ».**
**1.20** «Погода» + Гороскоп.

## МКТВ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 1 ИЮНЯ**

**6.30** Х/ф **«МОДНАЯ ШТУЧКА».**
**9.00** Х/ф **«НОВЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ АЛАДДИНА».**
**10.50** Х/ф **«ПОДАРОК С ХАРАКТЕРОМ».**
**13.20** Х/ф **«ШАНХАЙСКИЕ РЫЦАРИ».**
**15.20** Х/ф **«ТОЛСТЯК НА РИНГЕ».**
**17.10** Х/ф **«ХОЛОДНОЕ СЕРДЦЕ 2».**
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.15** Мая Радзіма.
**20.15** Х/ф **«СОНИК В КИНО».**
**22.15** Мажорный лад.

**ВТОРНИК, 2 ИЮНЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15** Рядом со звездой.
**8.15** Х/ф **«ДОМИК В СЕРДЦЕ».**
**13.00** Х/ф **«2+1».**
**15.10** Х/ф **«ВСЁ ИЛИ НИЧЕГО».**
**16.30** Х/ф **«НОВЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ АЛАДДИНА».**
**19.15** Мая Радзіма.
**20.15** Х/ф **«НАЧАЛО ВРЕМЕН».**
**22.15** Мажорный лад.

**СРЕДА, 3 ИЮНЯ**

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.15** Х/ф **«ТЕОРИЯ ХАОСА».**
**10.00** Х/ф **«МОДНАЯ ШТУЧКА».**
**13.00** Х/ф **«ЧЕРНАЯ МОЛНИЯ».**
**15.10** Х/ф **«ТОЛСТЯК НА РИНГЕ».**
**17.00** Х/ф **«ШОПО КОП».**
**19.15** Рядом со звездой.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.15** Мажорный лад.

**ЧЕТВЕРГ, 4 ИЮНЯ**

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.15** Х/ф **«УДИВИТЕЛЬНОЕ ПУТЕШЕСТВИЕ ДОКТОРА ДУЛИТТЛА».**
**10.00** Х/ф **«ОДНОЙ ЛЕВОЙ».**
**12.00** Х/ф **«ШАНХАЙСКИЙ ПОЛДЕНЬ».**
**15.00** Х/ф **«КАМУФЛЯЖ И ШПИОНАЖ».**
**19.15** Рядом со звездой.
**20.15** Х/ф **«ОГНИ БОЛЬШОЙ ДЕРЕВНИ».**
**22.15** Мажорный лад.

**ПЯТНИЦА, 5 ИЮНЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15** Мая Радзіма.
**8.15** Х/ф **«ПРИЗРАК».**
**9.40** Всё обо всем.
**11.40** Х/ф **«АГЕНТ 117-МИССИЯ В РИО».**
**13.45** Х/ф **«ТАКИЕ РАЗНЫЕ БЛИЗНЕЦЫ».**
**15.35** Х/ф **«КОРОЛЕВСТВО ПОЛНОЙ ЛУНЫ».**
**16.50** Х/ф **«ХОЛОП».**
**19.20** Будьте здоровы.
**20.20** Х/ф **«ЧЕТВЕРО ПРОТИВ БАНКА».**
**22.20** Мажорный лад.

**СУББОТА, 6 ИЮНЯ**

**6.30, 8.40** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.30** Мастерство и вдохновение.
**13.00** Х/ф **«ТОЛСТЯК ПРОТИВ ВСЕХ».**
**14.50** Х/ф **«Я - МИЛЛИАРДЕР».**
**16.25, 21.10** Новости БЖД.
**16.50** Х/ф **«УПРАВЛЕНИЕ ГНЕВОМ».**
**19.30** Рядом со звездой.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.20** Мажорный лад.

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 7 ИЮНЯ**

**6.30** Х/ф **«КАК ПОЙМАТЬ ПЕРО ЖАР-ПТИЦЫ».**
**9.00** Х/ф **«НАЧАЛО ВРЕМЕН».**
**10.50** Х/ф **«НИНДЗЯ ИЗ БЕВЕРЛИ ХИЛЛЗ».**
**12.50** Х/ф **«ШАНХАЙСКИЙ ПОЛДЕНЬ».**
**14.50** Х/ф **«АГЕНТ 117-МИССИЯ В РИО».**
**16.40** Х/ф **«ТОЛСТЯК ПРОТИВ ВСЕХ».**
**18.25** Х/ф **«КОПЫ В ГЛУБОКОМ ЗАПАСЕ».**
**20.00** Х/ф **«БАБЛО».**
**21.30** Х/ф **«СОНИК В КИНО».**

## Беларусь 1

**6.05** Слово Митрополита Павла на День Святой Троицы.

**6.15** Слово Митрополита Тадеуша Кондрусевича на День Святой Троицы.

**6.25, 16.40** Х/ф **«НЕОТПРАВЛЕННОЕ ПИСЬМО».**

**8.15** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.50** Истории спасения.

**10.30** Зона Х. Итоги недели.

**11.10** Вокруг планеты.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Х/ф **«ДЕДУШКА МОЕЙ МЕЧТЫ».**

**14.25** Кулинарная дипломатия.

**15.15** Твой город.

**15.30** Х/ф **«ОСВОБОЖДЕНИЕ».**

**16.05** Маршрут построен.

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.10** Х/ф **«ЗАМОК НА ПЕСКЕ».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**

**8.35** Т/с **«ТИМОН И ПУМБА».**

**9.25, 19.25** Телебарометр.

**9.30** «Подиум». Фэшн-шоу.

**10.20** «До свидания». Реалити-шоу.

**11.05** «Зов крови». Реалити-шоу.

**12.05** «Верю не верю». Трэвел-шоу.

**13.00** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ПОЛЕТА».**

**14.35** «Папа попал». Реалити-шоу.

**16.20** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**17.10** Галактическая сага «Звездные войны: Эпизод 1 – Скрытая угроза».

**19.55** «Секретный миллионер». Реалити-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** Х/ф **«ИГРОК».**

**23.10** «Третий лишний». Реалити-шоу. [СТ].

**0.10** «Орел и Решка. Перезагрузка». Трэвел-шоу.

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».

**8.00, 13.25, 20.15** Навіны культуры.

**8.20, 20.35** Гэты дзень.

**8.25** «Высакародны разбойнік Уладзімір Дуброўскі». Мастацкі фільм СТ.

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.30** «Беларуская кухня». Мяса ў цесце.

**11.00** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.55** «Белыя росы». Мастацкі фільм СТ.

**13.45** «Камертон». Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Антон Краўчанка.

**14.10** В.Кузняцоў. «Вітаўт». Балет Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь.

**15.35** «Майстры і куміры». Харэограф, народны артыст Беларусі Юрый Траян.

**16.25** «Я хачу гэта ўбачыць!».

**16.50** «Востраў скарбаў». Мастацкі фільм.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «На спіне ў чорнага ката». Мастацкі фільм.

**22.40** «Маладыя зоркі сусветнай оперы». Канцэрт.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** «Здоровье».

**8.05** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.45** Т/с **«ЛЮБОВЬ ПО ПРИКАЗУ».**

**11.30** «Видели видео?».

**12.10** Премьера. «На дачу!» с Ларисой Гузеевой.

**13.25** Х/ф **«ЛЮБОВЬ НА ДВА ПОЛЮСА».**

**15.10, 16.20** Х/ф **«БРАТ».**

**17.30** Х/ф **«БРАТ 2».**

**20.00** «Контуры».

**21.20** ОНТ представляет: «Беларусь. Достояние Республики».

**22.10** К 20-летию «Брата 2». «Сергей Бодров. «В чём сила, брат?».

**23.10** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**23.30** «Что? Где? Когда?». Летняя серия игр.

## СТВ

**6.00, 23.35** «Живая тема».

**7.40, 20.35** Документальный спецпроект.

**9.10** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.00** Документальный проект.

**11.40, 13.40, 16.40** Т/с **«ИНКАССАТОРЫ».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**22.15** «Засекреченные списки».

## Мир

**6.00** «Беларусь сегодня».

**6.30** «Еще дешевле».

**7.00** Х/ф **«САЛОН КРАСОТЫ».**

**8.50** «Наше кино. История большой любви». Фрунзик Мкртчян.

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.10, 16.15, 19.30** Т/с **«ГОСУДАРСТВЕННАЯ ГРАНИЦА».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**23.00, 1.00** Т/с **«МОТЫЛЬКИ».**

**3.35** Х/ф **«СВЕТЛЫЙ ПУТЬ».**

**5.10** Мультфильмы.

## НТВ-Беларусь

**6.05** «Астропрогноз».

**6.15** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.45** «Истории ремонта».

**7.20** «Дача».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «24 вопроса».

**8.55** Беларусы.

**9.25** «Я хочу это увидеть!».

**10.25** «Первая передача».

**11.00** «Чудо техники».

**11.50** «Дачный ответ».

**12.50** «НашПотребНадзор».

**14.05** Истории спасения.

**14.15** Х/ф **«НАЗНАЧЕНА НАГРАДА».**

**16.20** «Следствие вели…».

**18.00** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.10** Ты не поверишь!

**21.15** «Звезды сошлись».

**22.45** Х/ф **«КРЕМЕНЬ».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«АНЮТИНЫ ГЛАЗКИ».**

**10.15** «Устами младенца».

**11.00** ВЕСТИ.

**11.15** «Сто к одному».

**12.00** Х/ф **«МОЕ ЛЮБИМОЕ ЧУДОВИЩЕ».**

**15.15** ПРЕМЬЕРА. «100ЯНОВ». Шоу Юрия Стоянова.

**16.05** Х/ф **«СУДЬБА МАРИИ».**

**17.50, 21.45** Х/ф **«МЕСТЬ КАК ЛЕКАРСТВО».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.15** «В людях».

**22.50** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**23.30** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 17.45** Валериан и город тысячи планет. **8.50** Облачный атлас. **12.05** Двойная жизнь Чарли Сан-Клауда. **13.50** После нашей эры. **15.30** Пятый элемент. **20.10** Иллюзионист. **22.05** Давайте потанцуем. **0.00** Дыши ради нас. **2.00** Она. **4.15** Санктум.

### TV1000 ACTION

**7.05** Каратель. **9.25** Ларго Винч 2: Заговор в Бирме. **11.30** Мумия. **13.40** Мумия возвращается. **15.50** Царь Скорпионов. **17.20** Мумия: Гробница Императора Драконов. **19.10** Орёл Девятого легиона. **21.10** Страховщик. **23.00** Убийца внутри меня. **0.55** Уличный боец. **3.00** Кикбоксёр возвращается. **5.10** Нокаут.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.15** Вечер накануне Ивана Купала. **8.45** Любит не любит. **10.20** Любовницы. **12.05** Свадьба по обмену. **13.40** Ну, здравствуй, Оксана Соколова! **15.30** Фантом. **17.05** Код апокалипсиса. **19.00** Везучий случай. **20.35** Я худею. **22.20** Одноклассники.ru: НаCLICKай удачу. **0.05** Медвежий поцелуй. **2.00** Я тоже хочу. **3.15** Бабло. **4.45** Спарта.

### ТВ3

**6.00, 9.15, 10.15** Мультфильмы. **8.30** «Рисуем сказки». **8.45** «Новый день». **10.00** «Комаровский против коронавируса». **12.00** «Мама Russia». **13.00** Х/ф **«DOA: ЖИВЫМ ИЛИ МЕРТВЫМ». 14.45** Х/ф **«ОСОБО ОПАСЕН». 17.00** Х/ф **«ЗАЛОЖНИЦА-2». 19.00** Х/ф **«ЗАЛОЖНИЦА-3». 21.15** Х/ф **«МОРЕ СОБЛАЗНА». 23.30** Х/ф **«БЕЗУМИЕ 13». 1.15** Х/ф **«ПОДМЕНА». 3.30, 4.00, 4.15, 4.45, 5.15, 5.30** «Городские легенды».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«ДВОЙНАЯ ЖИЗНЬ». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«ЖУКОВ». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«ОСТРОВ НЕНУЖНЫХ ЛЮДЕЙ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ГОСПОДА-ТОВАРИЩИ. НЕУЛОВИМЫЙ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.40** Х/ф **«ПИПЕЦ». 2.50** Х/ф **«МИЛЛИАРД». 4.35** Х/ф **«БАНДИТКИ». 6.20** Х/ф **«БЕЛОЕ ВИНО ИЗ БАББУДОЙУ». 8.20** Х/ф **«ПОСЛЕДНИЕ ДЕВУШКИ». 10.00** Х/ф **«ВИРУС ЛЮБВИ». 11.45** Х/ф **«ЛЮБОВЬ И ДРУГИЕ ЛЕКАРСТВА». 13.55** Х/ф **«ДЖУНГЛИ». 15.30** Х/ф **«ЭВОЛЮЦИЯ». 17.30** Х/ф **«ПОДМЕНА». 19.30** Х/ф **«КРУТОЙ И ЦЫПОЧКИ». 21.25** Х/ф **«НАЦИОНАЛЬНАЯ БЕЗОПАСНОСТЬ». 23.05** Х/ф **«НОВОГОДНИЙ ОТРЫВ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.25, 1.20, 2.20, 3.15** Т/с **«ТРИ ДНЯ ЛЕЙТЕНАНТА КРАВЦОВА». 4.10, 5.15, 6.15, 7.20, 8.20, 9.25, 10.25, 11.25, 12.30, 13.30** Т/с **«ПАЛАЧ». 14.30, 15.30, 16.30, 17.35, 18.35, 19.40, 20.40, 21.45** Т/с **«ПАУК». 22.45, 23.40** Т/с **«ДИЛЕТАНТ».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.30, 9.05, 10.25, 11.55, 12.50, 13.50, 14.40, 15.40, 17.55, 20.55, 22.50, 23.50** Погодка. **8.35, 22.55** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.10** Мультфильмы «РАЗВЛЕЧЁБА». **9.30** Мультфильмы «ЦАРЕВНЫ». **9.55** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **10.30, 3.00** «ПРОСТО КУХНЯ». **11.00** Шоу «ДЕТКИ-ПРЕДКИ». **12.00** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.55, 3.30** Шоу «РОГОВ ДОМА». **13.55, 19.35, 1.15** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **14.45** Юмористическое шоу «СЛАВА БОГУ, ТЫ ПРИШЁЛ!». **15.45** Х/ф **«ВИКИНГИ ПРОТИВ ПРИШЕЛЬЦЕВ». 18.00** Х/ф **«МОНСТРЫ НА КАНИКУЛАХ». 21.00** Фэнтези «ЛЕГИОН». **23.55** Скетч-шоу «НЕРЕАЛЬНАЯ ИСТОРИЯ». **4.20** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **5.10** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Азбука спорта. **7.10, 9.35** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 12-й тур. **9.05** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. **11.35** Прыжки на батуте. Чемпионат мира. **12.40** Пит-стоп. **13.10** Тяжелая атлетика. Чемпионат Европы. Батуми. **15.20** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 12-й тур. Превью. **15.50** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 12-й тур. ФК Витебск – БАТЭ (Борисов). **17.50** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 12-й тур. Белшина (Бобруйск) – Динамо-Минск. **19.50** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 12-й тур. Шахтер (Солигорск) – РЦОР-БГУ (Минск). **22.00** Футбол. Чемпионат Беларуси. Обзор тура. **22.45** Итоги недели. **23.30** Тренировочный день.

### EUROSPORT

**0.00, 0.30, 1.00, 1.30, 2.00** Мотогонки. FIM Endurance. All Access. **2.30, 12.30** Снукер. Welsh Open-2018. Кардифф. 1/2 финала. Хиггинс – Уилсон. **4.30, 15.00** Теннис. «Ролан Гаррос». You Say We Play. **9.30** Велоспорт. «Критериум Дофине»-2019. 1-й этап. **10.15** Велоспорт. «Критериум Дофине»-2019. 2-й этап. **11.00** Велоспорт. «Критериум Дофине»-2019. 3-й этап. **11.45** Велоспорт. «Критериум Дофине»-2019. 4-й этап. **13.30** Снукер. Welsh Open-2018. Кардифф. Финал. Хиггинс -. **20.00** Велоспорт. «Критериум Дофине»-2019. 5-й этап. **21.00** Велоспорт. «Критериум Дофине»-2019. 6-й этап. **22.00** Велоспорт. «Критериум Дофине»-2019. 7-й этап. **23.00** Велоспорт. «Критериум Дофине»-2019. 8-й этап.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Школа внедорожного вождения. **6.15, 16.40** Поездка выходного дня. **6.45, 8.15, 17.10** Металлоломщики. **7.30, 9.55, 13.15, 16.05, 19.00, 23.20, 1.25, 4.00** Итоговые новости. **7.45, 2.10** В поисках мотоприключений. **9.05** Резьба по стали. **9.35** Тест с дядей Ваней. **10.10** Мотогараж. **10.40** Мото тест-драйв. **11.20, 19.25, 22.45** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **11.50, 19.55, 4.15** Авто: вторые руки. **12.05, 20.10, 23.35, 4.30** Трасса А2. **12.55, 0.25** Хорошо забытое. **13.30, 0.45** Испытание на прочность. **14.00, 1.10** Вторичка. **14.15, 1.40** Тест на «Драйве». Эксклюзив. **14.50, 21.00, 5.15** Тест в большом городе. **15.20** Байки про байки. **16.20, 22.30** Дома на колесах. **18.50** Наезд! **21.45, 2.40** Вечер с Пикуленко. **3.20** Эконом-тест. **3.35** Кругосветка по бездорожью. **5.45** Мото-тест.

### EXPLORE

**6.00, 6.55, 7.50, 8.40** Речные чудовища. **9.35** Большой улов. **10.25** Масштабные инженерные ошибки. **11.10** Демонтаж самолетов. **12.00, 12.45, 13.35, 14.20, 15.05, 15.50, 16.40, 17.25, 18.10, 18.55, 19.45, 20.30, 21.15, 22.00, 22.45, 23.35, 0.20, 1.05** Австралийские золотоискатели. **1.50** Охотники на морских ежей. **2.40, 3.25** Ковбои ледяных вод. **4.20, 5.10** Перевозчики поездов.

### HISTORY

**6.10** Родовые проклятья. **6.35, 7.00, 5.05, 5.30** Невероятные изобретения. **7.25, 8.10, 8.50** Музейные тайны. **9.40, 10.30** Удивительное семейство псовых. **11.25, 12.20, 13.25, 14.25, 15.25** Первые люди. **16.25, 17.25** Невидимые города Италии. **18.20, 19.10** Военные заводы. **20.00** Тридцатилетняя война – Железный век. **21.00** Генрих VIII: человек, монарх, чудовище. **21.50** Спецназ древнего мира. **22.45, 23.35** Карты убийства. **0.20, 1.10** Загадки Египта. **1.55, 2.40, 3.30, 4.15** Запретная история.

### NATURE

**6.15** Мир природы – лемур-блюз. **7.05** Невероятные животные. **8.00, 8.50, 9.40** Один дикий день. **10.35, 11.25, 12.20, 13.15, 14.05, 19.20, 20.15** Бескрайняя Африка. **15.00, 18.30** Загадочная планета. **15.50** Большой барьерный риф с Дэвидом Аттенборо. **16.45** Эпический Йеллоустоун. **17.35** Огромные звери: последние из великанов. **21.05** Суровая Австралия. **21.55** Невероятные встречи с животными. **22.45, 2.00** Мутации погоды. **23.30, 23.55** Природа в кадре. **0.20** Жуткие, настоящие и странные. **1.10** Хищные питомцы. **2.45** Ветеринар из Йоркшира. **3.30** Уличный ветеринар. **4.00, 4.25, 4.50, 5.15** Лучшие друзья собаки.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 6.15** Научные глупости. **6.40** Золото Юкона. **7.25** Труднейший в мире ремонт. **8.15, 9.00, 9.45** Скрытые жемчужины Турции. **10.30** Авто-SOS. **11.15** Инстинкт выживания, Китай. **12.05, 12.50, 13.35, 14.20, 18.55, 22.50, 23.40, 1.10** Космос: возможные миры. **15.05** «Спасти Нотр-Дам». **15.50, 16.35, 17.20, 18.10** Расследования авиакатастроф. **19.40, 20.30, 21.15, 22.05** Три вождя. **0.25** Трагедия «Челленджера». **1.55, 2.40** Инстинкт выживания. **3.25, 4.20, 5.10** Неизвестная планета Земля.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 9.55, 13.55, 18.00, 22.05, 2.10** Рыболовная школа для взрослых. **6.30, 10.25, 14.25, 18.30, 22.35, 2.35** Охота в Новом Свете. **6.55** Горная охота на корякского и чукотского снежного барана. **7.25, 15.20, 23.35** Вкусные рецепты охотника. **7.55, 11.50, 15.50, 0.05, 4.05** Давай зарубимся! **8.10, 12.10, 0.20, 4.20** Охоты и охотники. **8.25, 12.25, 16.25, 0.40, 4.35** Рыбалка 360. **8.55** Рыболовная Россия. **9.25, 1.40, 5.35** Фотоохота с Евгением Полонским. **10.50** Горная охота на охотского снежного барана. **11.20, 19.25, 3.35** Вкусные рецепты рыболова. **12.55, 16.55** Охота в Удмуртии. **13.25, 17.30, 21.35** Рыбалка в России. **14.50, 18.55** Мир рыболова. **16.10** Популярная охота. **19.55** Андрей Старков и его команда. **20.30** Рыбалка на малых реках Удмуртии. **21.00** На рыбалку с охотой. **23.00** Горная охота на тяньшанского архара. **1.10, 5.05** Такая жизнь охота с Сергеем Бешенцевым. **3.00** Горная охота на колымского снежного барана.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.55, 22.20** Большие идеи для маленького сада. **7.05, 11.00, 23.20** Агротуризм. **7.30, 11.45, 15.45, 19.35, 23.50, 3.55** Безопасность. **8.00, 16.15, 20.10, 0.20, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.15, 16.30, 20.25, 0.40, 4.35** Доктор смузи. **8.35, 12.30, 0.55** Занимательная флористика. **8.55, 12.50, 17.05, 21.00, 1.10, 5.05** У мангала. **9.25** Дачные радости с Мариной Рыкалиной. **11.30** Наш румяный каравай. **13.20, 17.30, 21.30, 1.40, 5.30** История одной культуры. **13.55, 18.05, 2.25** Профотбор. **14.25, 18.35, 2.55** Дачных дел мастер. **15.00, 19.05, 3.25** Старинные русские усадьбы. **15.30** Кашеварим. **16.50, 20.40, 4.50** Сам себе дизайнер. **22.00** Самогон. **2.10 2.10 2.10** ..И КОМПОТ!

# Вілейскія цэрквы, казначэйствы і турма на здымках пачатку 20 стагоддзя

## Як цяпер выглядаюць гэтыя пабудовы?

**Фота на адной старонцы**

Глядзіце **ўсе фотаздымкі** на **rh.by!** Адсканупуйце QR-код або перайдзіце па спасылцы: **bit.ly/vilejka**





Фота Беркі БЕРМАНА з фондаў Вілейскага краязнаўчага музея.

**Царква Прападобнай Марыі Егіпецкай узімку 1918 года.**



Фота Настассі УТКІНАЙ.

**Сучасны ракурс на царкву.**




Фота з фондаў Дзяржаўнага музея гісторыі Санкт-Пецярбурга і Настассі УТКІНАЙ.

**Фота паштоўкі будынка казначэйства ў Вілейцы. Злева — так ён выглядаў да вайны, справа — выгляд будынка ў 2020 годзе.**



Фота Настассі УТКІНАЙ і з калекцыі Марата ХАЙРУЛІНА.

**Будынак турмы ў Вілейцы. Фота 1916 года (справа), пазней у будынку турмы быў анкалагічны дыспансер, але яго закрылі (фота 2020 года злева).**

*Заканчэнне. Пачатак у №№ 20 і 21.*

**У гэтым артыкуле «Рэгіянальная газета» пакажа старыя здымкі Вілейкі і параўнае іх з сучаснымі фатаграфіямі.**

### Свята-Георгіеўская царква

Прыходская Свята-Георгіеўская царква ў Вілейцы першапачаткова будавалася як касцёл пры кляштары кармелітак. Пасля падаўлення польскага паўстання 1863 года яшчэ незавершаны будынак касцёла перадалі праваслаўнай царкве. У 1874 годзе касцёл перабудавалі ў псеўдарускім стылі і асвяцілі як Свята-Георгіеўскую царкву. У гады Першай сусветнай вайны царква не моцна пацярпела, тут адпявалі загінулых салдат і афіцэраў.

Царква моцна пацярпела ў гады Вялікай Айчыннай вайны і была разабраная ў 1950-я гады.

### Царква Прападобнай Марыі Егіпецкай

Царкву Прападобнай Марыі Егіпецкай у Вілейцы пабудавалі ў 1865 годзе з блаславення мітрапаліта **Іосіфа (Сямашкі)** пры падтрымцы віленскага генерал-губернатара **Міхаіла Мураўёва** з праекта расійскага інжынера **Аляксея Палазава**. На будаўніцтва царквы ахвяравалі сродкі расійскі дваранін, камергер і сапраўдны стацкі саветнік **Апалон Рэдкін**. Асвяцілі царкву 4 верасня 1865 года.

У гады Першай сусветнай вайны царква не моцна пацярпела. Падчас нядоўгай акупацыі ў верасні 1915 года немцы не адчынялі Свята-Марынскі і абодва прыпісныя храмы і не распачалі дзеяннаў па вывазе з іх каштоўнасцяў.



Фота krokiww1.by.

**Свята-Георгіеўская царква. Фота невядомага нямецкага салдата, люты 1918 года.**




Фота Настассі УТКІНАЙ.

**Царква пацярпела ў час Другой сусветнай вайны. Не аднаўленая. На яе месцы цяпер будынак аддзялення банка.**

### Іншыя будынкі і віды горада

Іншыя будынкі горада таксама пацярпелі. Некаторыя разбураныя, якія ёсць на фота, не ўдалося ўстанавіць — невядома, дзе яны знаходзіліся і што ў іх размяшчалася. Іншыя будынкі, напрыклад, турмы і казначэйства, наадварот, не пацярпелі і добра захаваліся да нашых дзён.

**Матэрыял падрыхтаваны Настассяй УТКІНАЙ дзякуючы Дабрачыннаму культурна-гістарычнаму фонду памяці Першай сусветнай вайны «Крокі» і Андрэю КАРКОТКУ.**

# «Спярша страчваюць рэчы продкаў, потым духоўную спадчыну краіны»

## Педагог – пра значэнне сямейнай спадчыны ў выхаванні дзіцяці

СМАРГОНЬ

**У сваім артыкуле хачу звярнуць увагу на каштоўнасць сямейнай спадчыны. Сёння з-за недасведчанасці людзей яна часам страчваецца. І дзеці з'яўляюцца сведкамі гэтых з'яў.**

Спачатку выкідаюцца, спальваюцца рэчы продкаў у сям'і. А потым такі ж лёс чакае і культурныя, гістарычныя помнікі, матэрыяльную і духоўную спадчыну краіны.

### Выкідаюць ці выкарыстоўваюць так, што душа баліць

Людзі выкідаюць старыя фотаздымкі, спальваюць рэчы, вырабы або выкарыстоўваюць іх так, што душа баліць. Рэчы – гэта жывая гісторыя сям'і. Кожная мае сваю энергетыку і свой прамежак жыцця побач з яе гаспадаром.

**Рэчы пераўтвараюцца, калі да іх датыкаюцца чалавечыя рукі, становяцца часткай нас і адлюстроўваюць нас.**

Вельмі яскрава гэта можна прасачыць па гісторыях, якія распавялі бацькі выхаванцаў беларускамоўнай групы смаргонскага дзіцячага сада-ясляў №8 падчас правядзення выставы «Бабулін куфэрак».

### Сямейныя гісторыі пра старыя рэчы і продкаў

Вось вытрымкі з гэтых гісторый.

**Валянціна Ліс**: «У сям'і маёй маці было дзесяць дзяцей. Гэта толькі тыя, што выжылі. Яна нарадзілася апошняй, і яе выхаваннем пераважна займалася старэйшая сястра. Сястра спраўляла і пасаг: сама ткала посцілкі, рабіла падушкі. Гэту посцілку для маці таксама выткала сястра. Цяпер яна захоўваецца ў маёй сям'і, і яе атрымае ў пасаг мая дачка. Мама, як, напэўна, усе ў той час, вельмі любіла хадзіць на танцы. Бо гэта была традыцыя: па выхадных ладзіць танцы ў мясцовым сельскім клубе. Тады лічылася модным сярод дзяўчат і жанчын на плечы накідваць прыгожую вялікую хустку з кутасамі. Мама набыла сабе такую. Цяпер гэту хустку яна перадала мне ў спадчыну. Гэта вельмі прыгожая і шыкоўная рэч».

**Карнэлія Лось**: «Мой прадзед добра ўмеў шыць адзенне, ездзіў вучыцца гэтаму аж у Пецярбург. Пасля, вярнуўшыся дамоў, адкрыў майстэрню, дзе разам са сваімі вучнямі шылі на славутых «Сінгерах» людзям адзенне».

**Віялета Завіша**: «Ад бабулі мне засталася прыгожая табакерка. Там бабуля захоўвала нешматлікія свае ўпрыгажэнні. Сярод іх былі вельмі прыгожы залаты пярсцёнак з ружовым каменем. Калі я добра сябе паводзіла, бабуля калі-нікалі дазваляла паразглядаць, а штосьці з упрыгажэнняў і прымераць».

### З чаго складаецца кніга жыцця сям'і

Такія гісторыі ўплываюць на сённяшняе жыццё чалавека, яго выхаванне, светапогляд, здольнасці. З падобных расказаў складаецца кніга жыцця сям'і. Бо сям'я – самы першы інстытут, а самыя першыя педагогі – бацькі. Калі навучышся з маленства быць удзячным, ставіцца з павагай і пашанай да сваіх продкаў ды іх спадчыны, то аваладаеш не толькі сілай свайго роду, але і іх мудрасцю.

…«А куды ж я, мой сыночак ці ўнучак, выкіну яе? Ета ж маткі маёй.

**Я ж як зірну, дак кажэцца і матку пабачу, адкрыю скрыню, да павынімаю рэчы, да паплачу ля іх, да і пацалую, да і палажу. Мамка, мая галубка, настаўляла мне ўсяго…**

Дак я кажу ўнукам: «Не раскідайце, хай будзе вам!» – такія словы падчас этнаграфічнай экспедыцыі запісаў ад адной з суразмоўцаў **Аляксандр Нікіцін** у 2017 годзе.

**Эдзіта БРАНЦЭВІЧ,**
**выхавальніца беларускамоўнай групы дзіцячага сада-ясляў №8 Смаргоні.**
**Фота аўтара.**



Выхаванцы з вырабамі сваіх продкаў.



Адзін з экспанатаў выставы ў садку.

# Жыццё ў тры акты

## Успамін пра Сяргея Вальковіча

МАЛАДЗЕЧНА

**Днямі Мінскі абласны драматычны тэатр завершыць сезон, каб восенню распачаць новы – 30-ы. Адкрыццё сезона суседнічае з яшчэ адной юбілейнай датай – 6 верасня мог бы адзначыць сваё 80-годдзе Сяргей Вальковіч, які амаль 15 гадоў быў дырэктарам МАДТ і фактычным яго стваральнікам.**

У 1992 годзе ён стаў кіраўніком новай установы культуры і прыняў увесь цяжар перыяду станаўлення.

### Акт 1. Сенніца

Гэта колішняя вёска пад Мінскам улілася сёння ў сталічны мегаполіс новым мікраараёнам. Але ў падножжы сучасных шматпавярховікаў яшчэ туляцца там-сям прыватныя сядзібы ў зацені яблыневых садоў. Існуе яшчэ сямейнае гняздо Вальковічаў. На відэа 40-гадовай даўніны захаваліся і спевы гаспадара, Барыса Вальковіча, зафіксаваныя аматарскай відэа-камерай. Хораша спяваў звычайны шафёр, ветэран Другой сусветнай вайны. Іншы раз падпявала яму жонка – настаўніца мясцовай школы. З цягам часу ўліліся ў сямейны ансамбль галасы сына і дачкі. Дзеці закончылі музычную школу. Калі прыйшоў час выбіраць прафесію, сын, Сяргей, паступіў у Маладзечанскае музычнае вучылішча. Ад гэтай пары Маладзечна стала яго горадам і радзімай для яго дзяцей.

Праўда, пасля першага курса давялося апрануць форму вайскоўца і два гады спраўна служыць Айчыне. Па шчаслівым збегу абставінаў службу Сяргей Вальковіч праходзіў у Мачулішчах, адкуль напрасткі да роднай Сенніцы было рукой падаць. Іншы раз юнак збочваў, шыбуючы ў звальненне. Таму што да вёскі Шчомысліца, дзе жыла яго дзяўчына **Тамара**, весялуха і пявуння, было яшчэ бліжэй.

Пасля армейскай службы ў Маладзечна яны прыехалі разам. Пакуль муж заканчваў вучобу ў Ленінградскім інстытуце культуры, Тамара працавала на швейнай фабрыцы «Камсамолка». Затым вучылася на харавым аддзяленні музвучылішча без адрыву ад выхавання дваіх дзяцей.



Сяргей Вальковіч.

### Акт 2. Зорныя паходы

30 гадоў плённай працы аддаў Сяргей Вальковіч Маладзечанскаму музычнаму вучылішчу, якое цяпер вядома як музычны каледж імя Агінскага. Не адно пакаленне выпускнікоў гэтай установы памятае яго не толькі як выкладчыка, а больш як ініцыятара, натхняльніка і арганізатара шматлікіх імпрэз, цікавых змястоўных мерапрыемстваў, гучных праектаў.

Мне пашчасціла іграць у дзіцячым аркестры народных інструментаў, які быў створаны Сяргеем Барысавічам. У аркестры вучні музычнай школы пры Маладзечанскім музвучылішчы засвойвалі азы сумеснай працы і дырыжорскай мануальнай тэхнікі. Ці не на рэпетыцыях нашага аркестра ўпершыню адчула я той неверагодны стан душы, калі сціплы голас твайго інструмента ўзмацняецца, зліваючыся з іншымі. Гэта было дзівосным адкрыццём для жыцця не толькі ў музыцы. Быў адкрыццём і сам наш кіраўнік, жыццелюбівы чалавек з неверагодным пачуццём гумару, добразычлівай усмешкай, іскрынкамі-хітрынкамі ў светлых прыжмураных вачах.

Працуючы намеснікам дырэктара музвучылішча па выхаваўчай рабоце, Сяргей Вальковіч з вялікім энтузіязмам імкнуўся зрабіць жыццё моладзі цікавым, яркім, плённым. І яму гэта ўдавалася, бо заўжды знаходзіў сцяжынку да сэрцаў сваіх выхаванцаў. Зорныя вандроўкі па родным краі, канцэрты ў вясковых клубах, школах, Дамах культуры, футбольныя матчы, лыжныя пераходы, праца на калгасных палетках – усё гэта неад'емная частка навучэнскага жыцця, а значыць, і вялікая доля арганізацыйнай работы Сяргея Вальковіча. Яго працу адзначылі медалём ВДНГ за патрыятычнае выхаванне моладзі.

### Акт 3. У абдымках Мельпамены

Адкрыццё прафесійнага тэатра ў Маладзечне стала з'явай нацыянальнага маштабу. Пэўны час яго неафіцыйна называлі трэцім нацыянальным за версасць беларускай мове. І па шчырасці, не помню, каб мова была перашкодай у продажы білетаў. А прэм'еры заўжды праходзілі з аншлагам. Месца ў 11 радзе, замацаванае за мной як журналістам поціскам рукі з дырэктарам, заўжды было занятае больш ганаровым госцем. Тады раённыя кіраўнікі мелі за гонар наведваць мясцовы тэатр.

Афіцыйнае рашэнне аб адкрыцці абласнога драмтэатра прынялі ў 1991 годзе, але ўрачыстае адкрыццё МАДТ адбылося толькі на пачатку 1993 года спектаклем «Зямля» па паэме Якуба Коласа ў пастаноўцы яго першага мастацкага кіраўніка заслужанага работніка культуры Беларусі **Мікалая Мацкевіча**.

Для Сяргея Вальковіча тэатр быў як любімае дзіця, выпакутаванае і выпеставанае. На пачатку працы новаму дырэктару давялося ўнікаць у спецыфіку работы, якая тычылася не толькі вытворчых і арганізацыйных праблем, але і творчых, спецыфічных для тэатра. Былі пэўныя напрацоўкі аматарскага народнага тэатра, што існаваў пры Маладзечанскім раённым Доме культуры. Толькі для прафесійнага ўзроўню па ўсіх параметрах народны не дацягваў. Завяршалася рэканструкцыя старога будынка, дзе базіраваўся раённы Дом культуры, а за польскім часам месцілася афіцэрскае казіно. А паралельна Сяргей Барысавіч вырашаў кадравыя пытанні, шукаў акцёраў для трупы сярод выпускнікоў тэатральна-мастацкага інстытута і інстытута культуры.

Рашэнне адной праблемы цягнула за сабой чарговую – забеспячэнне жылплошчай і вартаснай зарплатай маладых спецыялістаў, стварэнне ўмоў для творчага росту і спрыяльнага мікраклімату ў калектыве.

Прадстаўнікі тагачаснага дырэктарскага корпусу запомнілі Вальковіча як вельмі настойлівага, харызматычнага, эмацыйнага, вынаходлівага і ўпартага ў дасягненні пастаўленай мэты чалавека. Як сапраўдны беларус, строга прытрымліваўся Сяргей Вальковіч сваёй жыццёвай устаноўкі: увесь рэпертуар ішоў выключна па-беларуску. Гэта была яго грамадзянская пазіцыя. Ці не таму супрацоўнічалі з тэатрам, спрыяючы яго добрай рэпутацыі, вядучы драматург Беларусі **Аляксей Дудараў**, народная артыстка Беларусі **Марыя Захарэвіч**, заслужаная артыстка Беларусі **Вера Кавалерава**, кампазітар **Алег Залётнеў** і многія іншыя аўтарытэтныя творцы тэатральнага мастацтва.

Ладзілі нацыянальны фестываль майстроў тэатральнага мастацтва «Маладзечанская сакавіца», міжнародны фестываль монаспектакляў «Я». Пашыраўся рэпертуар і кола аўтараў. Плённа заяўлялі маладзечанцы пра сабе на сталічных сцэнах і атрымалі прэзідэнцкі грант на гука-святлоабсталяванне. Стварыўшы добрую гастрольную праграму, артысты МАДТ радавалі сваёй творчасцю жыхароў іншых рэгіёнаў.

За ўсімі новымі перамогамі і дасягненнямі сціпла стаяў чалавек, які не лічыў сябе ні геніем, ні зоркай. Ён проста выконваў сваю работу – служыў мастацтву. І толькі адзінкі бачылі, што ўсё часцей яго рука застывае ў раёне сэрца...

Акцёр і рэжысёр **Алег Чэчанеў** так згадвае Сяргея Вальковіча: «Не ўсё было гладка і ясквава ў яго напружаным тэатральным і гаспадарчым кіраўніцтве, але засталося цвёрдае разуменне, што побач з намі быў дбайны, няўрымслівы і нястомны гаспадар, для якога тэатр быў родным домам, бясконцым клопатам».

**Ала СТРАШЫНСКАЯ.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

# Шматразовыя і аднаразовыя тавары: што важна ведаць у сувязі з каронавірусам

**Расказваем, чаму ўласны кубак для кавы навынас больш бяспечны за аднаразовы.**

Цяпер сітуацыя з COVID-19 надзвычай сур'ёзная практычна ва ўсіх краінах свету, уключаючы Беларусь. Для таго, каб яна стабілізавалася, спатрэбіцца час – ад некалькіх тыдняў да некалькіх месяцаў.

Акрамя непасрэднага ўплыву на здароўе насельніцтва і эканоміку краін, цяперашні крызіс негатыўна ўплывае на стан навакольнага асяроддзя. Цэнтр экалагічных рашэнняў у кааперацыі з Платформай па пластыку ПРААН і Кааліцыяй Чыстая Балтыка падрыхтавалі інфармацыю пра тое, як засцерагчы сябе і адначасова знізіць экалагічную нагрузку ў цяперашніх умовах.



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Не пераходзьце на аднаразовы посуд з-за страху перад каронавірусам. У гэтым няма сэнсу.

### Ці бяспечная шматразовая тара?

Так. Мыла і гарачая вада эфектыўна знішчаюць каронавірус, іншыя вірусы і бактэрыі. Дамашнія і прамысловыя машыны для мыцця посуду больш эфектыўныя, чым ручное мыццё дзякуючы дадатковым перавагам – высокай тэмпературы і працягласці мыцця.

**У цэлым найбольш эфектыўным способам мыцця шматразовага посуду з'яўляецца мыццё ў пасудамыечных машынах пры высокай тэмпературы і з выкарыстаннем сродкаў дэзынфекцыі.**

Захаванне дзяржаўных санітарных правілаў гарантуе, што прафесійнае мыццё посуду знішчыць усе патагенныя мікраарганізмы.

### Хіба аднаразовыя рэчы не больш бяспечныя?

Не, яны не больш бяспечныя ў параўнанні з правільна вымытымі шматразовымі прадметамі.

Аднаразовы посуд і іншая ўпакоўка могуць утрымліваць вірусы і патагенныя бактэрыі, паколькі схільныя да ўздзеяння любых патагенных мікраарганізмаў, якія ўзнікаюць пры вытворчасці, транспартаванні, пры захоўванні запасаў і магчымым выкарыстанні.

### Аднаразовая тара можа ствараць ілжывае пачуццё бяспекі

Паводле нядаўна апублікаванай навуковай заявы, больш за 12 тысяч хімічных рэчываў выкарыстоўваецца ва ўпакоўцы харчовых прадуктаў, і многія з іх небяспечныя для здароўя чалавека. Магчымая міграцыя гэтых таксічных хімікатаў з аднаразовых тавараў і ўпакоўкі ў нашы прадукты харчавання і напоі – не праблема для непластыкавай упакоўкі шматразовага выкарыстання.

Выкарыстанне аднаразовай тары можа ствараць ілжывае пачуццё бяспекі. Такі феномен узнікае пры выкарыстанні аднаразовых сродкаў гігіены, пакетаў, посуду, пальчатак і іншага.

**Пры гэтым чалавек, спадзеючыся на бяспеку аднаразовага, можа грэбаваць правіламі гігіены, радзей мыць рукі і апрацоўваць паверхні.**

### Ці можна выкарыстоўваць сваю шматразовую тару?

Можна. Каронавірус пераважна распаўсюджваецца праз кашаль і чханне, а не праз ваш шматразовы посуд, калі вы рэгулярна і старанна мыеце тару. Важна памятаць: шматразовы кубак ці бутэлька павінны быць абавязкова індывідуальнымі! Не варта дзяліцца сваім шматразовым посудам.

Не дакранайцеся кубкам або бутэлькай непасрэдна да крана або кафейніка, старанна мыйце рукі пасля кантакту з паверхнямі ў грамадскім месцы.

Не забудзьцеся вымыць бутэльку або кубак з мылам (мыйным сродкам) пасля выкарыстання, пажадана ў пасудамыечнай машыне. Яшчэ варыянт – пракіпяціце некалькі хвілін.

### У кавярнях

Падчас COVID-19 многія кафэ не дазваляюць выкарыстоўваць уласныя кубкі ў іх. Гэта апраўдана?

Сёння шматлікія гатэлі, рэстараны і кафэ занепакоеныя сітуацыяй і хочуць максімальна засцерагчы нас ад вірусу. Менавіта таму яны настойліва прапануюць выкарыстоўваць аднаразовы посуд.

**Аднак пасля таго як каронавірус пройдзе, забруджванне аднаразовым пластыкам застанецца велізарнай экалагічнай праблемай.**

Крызіс з каронавірусам паказвае, што пакуль няма сістэмных рашэнняў, звязаных з выкарыстаннем шматразовага посуду для дастаўкі ежы, ежы навынас. З-за гэтага, верагодна, адбудзецца рэзкі скачок выкарыстання аднаразовай упакоўкі, бо рэстараны, каб выжыць, пераходзяць на дастаўку ежы.

**Аднак у некаторых частках свету кампаніі ўжо прапаноўваюць паслугі па дастаўцы ежы навынас у шматразовай тары.**

Гэтыя прадпрыемствы прапануюць чыстыя, прадэзынфіцыраваныя шматразовыя шклянкі і гатовыя кантэйнеры для рэстаранаў і кафэ. Брудны посуд збіраецца, мыецца і дэзынфіцыруецца ў прафесійных пасудамыечных машынах, а затым зноў пускаецца ў абарот.

Уявіце, наколькі менш адходаў можна было б генерыраваць у крызісе, калі б у Беларусі з'явіліся падобныя сэрвісы.

### Ці знішчыць каронавірус лад жыцця без адходаў?

Хутчэй, не. Прынцыпы zero waste (нулявыя адходы), гэтыя філасофія і лад жыцця вельмі хутка папулярызуюцца сярод людзей, таму іх распаўсюджанне працягнецца незалежна ад сітуацыі з каронавірусам.

І хоць крызіс на час зменіць многія рэчы ў нашым жыцці, ён наўрад ці зменіць такія каштоўнасці, як арыентацыя на здароўе людзей, здаровае навакольнае асяроддзе і ўстойлівую эканоміку.

**Артыкул падрыхтаваны па матэрыялах Цэнтра экалагічных рашэнняў.**

# Як выклікаць «хуткую» і ці варта ў мароз дакранацца языком да жалеза

## У Ільі старшакласніцы вучаць малодшых меддапамозе

**Што рабіць, калі атруціўся або парэзаўся? Як правільна карыстацца бінтам і лейкапластырам? Гэтаму ў Ільянскай сярэдняй школе імя Грымаця вучацца дзяўчаты 10 і 11 класаў на занятках медыцынскай дапамогі. А яшчэ перадаюць свае веды вучням пачатковых класаў.**

ВІЛЕЙКА

### Не ва ўсіх школах ёсць медработнікі

Вядома, прафесійную меддапамогу маюць права аказваць толькі спецыялісты з адпаведнай адукацыяй. Але першая дапамога не з'яўляецца медыцынскай, і яе можа аказаць любы чалавек. Яна так і называецца – даўрачэбная.

Такая дапамога патрэбная пры страце прытомнасці, вонкавым крывацёку, спыненні дыхання, пападанні іншароднага цела ў верхнія дыхальныя шляхі, траўмах розных частак цела, апёках і цеплавых ударах, абмаражэнні, атручэнні.

У школе, у дарозе, дома, на вуліцы здараюцца выпадкі, якія патрабуюць аказання людзям першай медыцынскай дапамогі, а дарослага побач няма. Дзеці праводзяць у школе ад чатырох да васьмі гадзін, наведваючы групы падоўжанага дня ці займаючыся на факультатывах або ў гуртках пяць-шэсць дзён на тыдзень. Нават самы ўважлівы педагог не заўсёды можа засцерагчы ад непрыемнасцяў усіх дзяцей.

Хто дапаможа дзіцяці ў выпадку траўмы? Хто акажацца ў крытычны момант каля яго: настаўнік, медработнік або вучні? Не ў кожнай адукацыйнай установе ёсць доктар ці медсястра. Напрыклад, у нашай школе ні медкабінета, ні медработніка няма.

### Разам з настаўнікам працуе доктар

Асноўны кірунак навучання медыцынскай падрыхтоўцы – засваенне вучнямі такіх ведаў, уменняў і навыкаў, якія дазвалялі б вучню прымаць рашэнні і дзейнічаць як у тыповых, так і ў нестандартных сітуацыях па захаванні жыцця пацярпелага да прыбыцця выратавальных службаў.

Падчас заняткаў мы працуем з навучальнымі дапаможнікамі, табліцамі, інструкцыямі, электроннымі сродкамі навучання. Дзяўчаты выконваюць зададзенні настаўніка, удзельнічаюць у дыскусіях па праблемных сітуацыях. Вучацца працаваць з рознымі відамі бінтоў, лейкапластыраў, з тэрмометрам і танометрам.

Добрай падмогай з'яўляецца медыцынская практыка. Акрамя заняткаў у школе, мы бываем у ільянскай амбулаторыі, гутарым з доктарам. Запамінальнымі былі сустрэчы з доктарам агульнай практыкі Ільянскай участковай бальніцы **Вольгай Скурановіч**. Яна задавала дзяўчатам няпростыя пытанні, расказвала і паказвала на іх саміх, як праводзіць сардэчна-лёгачную рэанімацыю, што рабіць пры пападанні іншароднага прадмета ў верхнія дыхальныя шляхі, як накладаць жгут.

### Школа – тэрыторыя здароўя

У гэтым навучальным годзе дзяўчаты змаглі паказаць веды і ўменні, атрыманыя на ўроках медпадрыхтоўкі, на практыцы. У нашай школе рэалізуецца праект «Школа – тэрыторыя здароўя» ў рамках Дзяржаўнай праграмы «Здароўе народа і дэмаграфічная бяспека Рэспублікі Беларусь».

У рамках праекта ў школе арганізавалі работу суполкі «Валанцёры здаровага ладу жыцця». Дзяўчаты, апрануўшы белыя халаты і ўзяўшы з сабой усё неабходнае са школьнай аптэчкі, прыходзілі ў госці да малодшых школьнікаў і распавядалі ім, як паводзіць сябе ў розных сітуацыях.

Малодшыя школьнікі слухалі, як справіцца з харчовым атручэннем, абмаражэннем і апёкамі, невялікімі парэзамі, стратай прытомнасці.

На пытанне «Ці ведаеце вы, што такое «жалезнае» абмаражэнне?» палова слухачоў адказала, што на асабістым досведзе ведаюць, што такое дакрануцца языком да жалезных рэчаў у мароз. Дзеці вучыліся перавязваць невялікія ранкі ад парэзаў, дапамагаць сабе і сябрам пры сонечным і цеплавым апёках, пры абмаражэнні і атручэнні.



Вучаніца 11 класа Ульяна Вярбіцкая і настаўніца Зоя Кіпель вучаць меддапамозе вучняў пачатковых класаў.

### І ўсё ж па якім нумары выклікаць «хуткую»?

Не абышлося і без кур'ёзных момантаў. Калі спыталі, па якім тэлефоне выклікаць «хуткую дапамогу», то ўсе дзеці хорам адказалі 102. Прыйшлося паказаць ім фота аўтамабіля з патрэбным нумарам 103, паведаміць, што званок нават з мабільніка бясплатны ў экстранную службу.

Не ўсе ведалі, што ў Беларусі ёсць адзіная дзяжурна-дыспетчарская служба, у якую можна патэлефанаваць па нумары 112.

Спадзяёмся, што веды атрыманыя ад валанцёраў, былі для вучняў малодшых класаў цікавымі і карыснымі.

**Зоя КІПЕЛЬ,
настаўніца медпадрыхтоўкі Ільянскай сярэдняй школы імя Адама Грымаця.
Фота забяспечанае аўтарам.**



11-класніца Юля Усціновіч расказвае пра тое, як дапамагчы пры абмаражэнні.

# Як гуляюць футбольныя каманды рэгіёна

**У чэмпіянаце першай лігі прайшло шэсць тураў, а ў другой – пяць. «РГ» расказвае, як каманды з рэгіёна гулялі на выхадных і як прайшоў для іх футбольны май.**




Фота Андрэя РАГІНСКАГА.

У апошнім туры маладзечанцы перамаглі астраўчан.

### «Смаргонь» – на першым месцы

«Смаргонь» засталася ў першай лізе пасля мінулага сезона. Смаргонцы згулялі ўжо шэсць матчаў: чатыры перамогі і дзве нічые – 14 ачкоў.

**Такім чынам, каманда галоўнага трэнера Вячаслава Герашчанкі знаходзіцца на першым месцы ў турнірнай табліцы першай лігі.**

У апошнім туры смаргонцы згулялі супраць наваполацкага «Нафтана». Перамогу смаргонскаму клубу прынёс **Пётр Казанцаў**. Ён забіў адзіны гол у матчы. Па колькасці галоў за шэсць тураў Казанцаў лідзіруе ў камандзе.

### «Ашмяны» – у сярэдзіне табліцы

«Ашмяны» завяршылі мінулы сезон на другім месцы другой лігі, таму сёлета гуляюць у першай лізе. За месяц, як пачаўся гэты сезон у першай лізе, ашмянцы перамаглі ў двух матчах, прайгралі тры сустрэчы і згулялі ў нічыю адну гульню.

Ашмянцы ў шостым туры правялі сустрэчу са «Слонімам», у якой перамаглі 1:0. Да гэтага «Ашмяны» перамагалі толькі ў першай гульні сезона.

**Серыю паражэнняў і «сухіх» матчаў перарваў Аляксей Маліноўскі.**

**Януш Ладуцька** ў гэтым сезоне лідзіруе сярод іншых гульцоў каманды па колькасці галоў.

### «Астравец» пакуль у тройцы

«Астравец» упершыню праводзіць сезон у прафесійным футболе. Каманда правяла толькі пяць матчаў. Пакуль што ў астраўчан чатыры перамогі і адно паражэнне. Апошнюю гульню яны правялі з маладзечанцамі, аднак не змаглі прывезці перамогу дадому.

У **Сяргея Крата** найбольш галоў сярод яго партнёраў па камандзе.

**Нагадаем, што ў мінулым годзе Крот выступаў за «Маладзечна».**

### ФК «Маладзечна» перамог «Астравец»

Маладзечанцы павінны былі згуляць у першай лізе, але ўсё-ткі засталіся ў другой: склад каманды прыкметна змяніўся, з'явіліся новы трэнер і дырэктар.

**ФК «Маладзечна» ў другой лізе правёў чатыры гульні: тры перамогі і адно паражэнне.**

Апошнюю гульню маладзечанскія футбалісты правялі на дамашнім полі супраць «Астраўца». Маладзечанцы перамаглі з лікам 2:0. Галамі адзначыліся **Арцём Базылюк** і **Сяргей Галюк**.

Па колькасці галоў лідзіруе **Мікіта Мятліцкі**.

Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## Разгляд справы аб дамоўнай гульні «Дынама» адклалі

У сераду, 20 мая, у судзе Маскоўскага раёна Мінска павінна была разглядацца крымінальная справа па дамоўным матчы і распаўсюджанні парнаграфіі. Аднак адзін з абвінавачаных, **Мікіта Усціненка**, захварэў. Яго адвакат хадайнічаў адкласці разгляд справы да выздараўлення спартсмена.

Па абодвух эпізодах, кваліфікаванымі артыкуламі Крымінальнага кодэкса – 253-м (подкуп удзельнікаў і арганізатараў прафесійных спартыўных спаборніцтваў і відовішчных камерцыйных конкурсаў) і 343-м (выраб і распаўсюджанне парнаграфічных матэрыялаў або прадметаў парнаграфічнага характару) – фігуруюць былыя гульцы ХК «Дынама-Маладзечна»: абаронцы Мікіта Усціненка, **Сяргей Шэлег** і **Аляксандр Сырэй**, а таксама варатар **Аляксей Іваноў**.

Паводле pressball.by.

## Лісічкін: пяць месяцаў плацілі па 150 рублёў

Форвард «Дынама-Маладзечна» **Вячаслаў Лісічкін** расказаў аб матывах удзелу ў дамоўным матчы паміж «Дынама» і «Магілёвам». Хакеіст сказаў, што гульцы пайшлі на дамоўную гульню з-за цяжкай фінансавай сітуацыі.

Лісічкін адзначыў, што на працягу пяці месяцаў гульцам маладзечанскага клуба плацілі па 150 рублёў. Ён таксама сказаў, што некаторыя хакеісты з-за свайго фінансавага становішча не плацілі некалькі месяцаў за кватэры гаспадарам.

Паводле by.tribuna.com.

## ФК «БАТЭ» ў чацверты раз выйграў Кубак Беларусі

24 мая «БАТЭ» і брэсцкае «Дынама» біліся ў фінале Кубка Беларусі. ФК «БАТЭ» выйшаў пераможцам, **Захар Волкаў** забіў пераможны гол на апошняй хвіліне дадатковага часу.

Барысаўчане выйгралі гэты трафей у чацверты раз у сваёй гісторыі.

Паводле by.tribuna.com.

## «Нёман» і «Ашмяны» заключылі дагавор аб стратэгічным партнёрстве

Па словах дырэктара «Ашмянаў» **Максіма Матукевіча**, партнёрства з «Нёманам» з'яўляецца новым крокам у развіцці дзвюх камандаў і адкрывае новыя магчымасці.

На сённяшні дзень у «Нёмане» і «Ашмянах» рэалізуецца маштабная сацыяльная праграма па прыцягненні падрастаючага пакалення да актыўнага ладу жыцця. Гэта праграма выконвае функцыі аздараўлення дзяцей і моладзі.

– Юныя спартсмены займаюцца футболам у СДЮШАР, сярод іх каля 150 дзяўчат, – распавёў Максім Матукевіч.

Прэс-служба «Ашмянаў».



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
3. Праверка ведаў па вучэбным прадмеце.
4. Блізкі таварыш.
5. Частка неба над лініяй гарызонту; небакрай.
6. Спецыяльная пляцоўка ў тэатры, на якой адбываюцца спектаклі.
7. Распаленая куча ламачча, дроў.
9. Невялікі сакавіты плод некаторых кустовых і травяністых раслін.
11. Імя галоўнага героя дзіцячай кнігі, у якой напісана: «Забіваць жанчын! Навошта, калі ў кнігах нічога такога няма? Прыводзіш іх у пячору, абыходзішся як мага больш ветліва, а там яны пацiху змогуць закахацца і ўжо самі не хочуць дадому».
12. Спецыяліст па вырабе цвёрдага малочнага прадукту.
13. Частка механізма, машыны.
16. Замест знакаў задыяка на ўсходзе часцей карыстаюцца гараскопам, заснаваным на гэтай вадкасці.
17. Парадкавы лік прадмета ў радзе яму падобных.
18. Гістарычная супольнасць людзей, якая склалася ў ходзе фарміравання агульнасці іх тэрыторыі, эканамічных сувязяў, мовы, культуры, псіхічных рыс.
21. Фальварак, у якім нарадзіўся Францішак Багушэвіч.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Развіццё, працэс павольнага, паступовага змянення ў прыродзе і грамадстве.
2. Не родны чалавек, не сваяк.
5. Словы або выразы, якія з'яўляюцца ў мове для абазначэння новых паняццяў.
6. Частка прасторы, абмежаваная стойкамі, перакладзінамі.
8. Сябелюб.
10. Прыстасаванне для аўтаматычнага адмервання або адважвання сыпкіх, вадкіх, газападобных рэчываў.
12. Моўная адзінка, якая сваім гукавым складам выражае паняцце аб прадмеце, працэсе, з'яве рэчаіснасці.
14. Знаходзіцца дзе-небудзь, ведаючы загадзя аб маючым адбыцца прыходзе, прыбыцці, з'яўленні.
15. Род літаратурных твораў, напісаных у форме дыялогу без аўтарскай мовы і прызначаных для пастаноўкі на сцэне.
18. Сукупнасць прадметаў аднолькавага прызначэння.
19. Характэрная адзнака, істотная ўласцівасць, якая адрознівае адзін прадмет ад другога.
20. Пісьмовае або вуснае пагадненне.
22. Пры перакладзе аднаго твора Роберта Сільверберга атрымалася, што з усіх клазетаў у горадзе пачалі вылазіць шкілеты. Як правільна трэба было перакласці слова, якое назвалі «клазетам».

## Адказы на крыжаванку з №21

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 3. Нідэрланды. 4. Вадалей. 5. Дзвінск. 7. Збіцень. 9. Сож. 10. Карона. 15. Куна. 16. Каралёк. 17. Пеніцылін. 18. Астра. 19. Кілт. 21. Калевала. 22. Муракамі. 23. Салей.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Свінапас. 2. Эмпатыя. 6. Вялес. 8. Бусел. 11. Сальса. 12. Бяроза. 13. Троіца. 14. Жупраны. 15. Каймак. 16. Канва. 20. Травалатар. 21. Конік. 22. Мыліцы.

● ГАРАСКОП ХАРЧАВАННЯ

## 29 мая – Міжнародны дзень здаровага харчавання. Якая ежа найбольш вам падыходзіць па знаку задыяка?



**АВЕН.** Важна, каб у вашым рацыёне было шмат прадуктаў для актыўнай дзейнасці мозга і падтрымкі нервовай сістэмы. Важна есці грэчку, проса, бабовыя. Частымі гасцямі на стале павінны быць капуста, морква, буракі і таматы. Асабліва карысныя для вас гранат, шпінат і арэхі.



**ЦЯЛЕЦ.** У вашым рацыёне павінна знайсціся месца для квяцістай капусты, морквы, абрыкосаў, агрэсту, вішань, яблыкаў. Старайцеся есці нятлустае мяса, сыры, каранеплоды. Часцей песціце сябе міндалем.



**БЛІЗНЯТЫ.** Ешце больш малочных прадуктаў ва ўсёй іх разнастайнасці. Харчуйцеся прадуктамі, што падтрымліваюць узровень гемаглабіну. Памятайце, што для вас лепшае мяса – гэта рыба.



**РАК.** Ваша адчувальнасць распаўсюджваецца і на ежу. Вам варта спажываць як мага больш садавіны і гародніны. Не адмаўляйце сабе ў морапрадуктах. Піце больш вады і гарбаты з розных зёлак. А ў цукры сябе абмяжуйце.



**ЛЕЎ.** Часцей піце сокі, ешце фруктовае пюрэ. Мяса ў любым выглядзе – галоўная ваша ежа, але не забывайце спалучаць яго з салатамі на алеі. Вашы прадукты – яйкі, арахіс, інжыр, буякі, бананы, кукуруза. Не злоўжывайце кавай.



**ДЗЕВА.** Важна есці кісламалочныя прадукты, магчыма, вы зможаце самастойна рабіць сабе ёгурты. Часцей ешце пратэінавую групу. Карысныя стравы з круп, макароны цвёрдых гатункаў. Абавязкова ешце агуркі, гарох, грушы, чарнасліў.



**ШАЛІ.** Часцей спажывайце рыбу і птушку, малако, цытрусавыя. Насычайце рацыён мінераламі. Звярніце ўвагу на італьянскую кухню. Не адмаўляйце сабе ў клубніцах, персіках, вінаградзе.



**СКАРПІЁН.** Вы любіце смачна паесці, але важна тое, што карысна. Звярніце ўвагу на морапрадукты, ёгурты, птушку, арэхі, спаржу, слівы, грыбы. Часцей ешце супы, а вось у алкаголі сябе варта абмяжоўваць.



**СТРАЛЕЦ.** Пазбягайце тлустай і перасалоджанай ежы. А вось грэцкія арэхі спажывайце часцей. Вы любіце экзотыку і дэсерты, але лепш есці ягады. Карысныя таматны сок і кіслая капуста.



**КАЗЯРОГ.** Часцей ешце посную ялавічыну і птушку. Больш капусты, бабовых, агуркоў, пятрушкі. Абавязкова вішні, ажыны, буякі, слівы. Старайцеся часцей есці гародніну без тэрмічнай апрацоўкі.



**ВАДАЛЕЙ.** Варта звярнуць увагу на сыры, яблыкі, лімоны, зеляніну. Часцей ешце фасолю і грэчку. Каралём сярод фруктаў для вас можа стаць апельсін.



**РЫБЫ.** Ешце больш тварагу, сыру, вараных яек, кісламалочных прадуктаў. Разынкі, насенне сланечніку, кашы – вашы абавязковыя прадукты. Песціце сябе сухафруктамі і мёдам.

**Эмілія ХВОЯ.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 2 | 7 | 8 | | | | 4 | |
| | 8 | | | | 9 | 5 | | 7 |
| | | 6 | | 1 | | | 2 | |
| 2 | 3 | | 6 | | | | | 9 |
| | | | 5 | 8 | 3 | | | |
| | 7 | | 9 | | 4 | | | |
| | 6 | | 4 | | | | 5 | |
| | | 2 | 1 | | | | | 4 |
| 8 | 9 | | | | | | 3 | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3Х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY


● #РГ25

## Аляксандр Салагуб, чытач:
# «Жадаю надалей трымацца за свабоду поглядаў!»

**28 красавіка «Рэгіянальная газета» адзначыла 25-годдзе. Прымаем віншаванні ад чытача Аляксандра Салагуба. «РГ» неаднаразова распавядала пра Аляксандра Аляксандравіча, яго дзяцінства ў Францыі і пераезд у СССР, а таксама пра яго фотавыставы. У гэты раз ён расказвае пра рэдакцыю.**

Аляксандр Аляксандравіч адправіў на адрас нашай рэдакцыі паштоўку:

– Добрага дня, паважаная наша «Рэгіянальная газета»! Так вось 25 год віншую ўсіх журналістаў і супрацоўнікаў «Рэгіянальнай газеты». Заўсёды гэта адбываецца ў вясенні прыгожы час. Са святам вас усіх, шаноўныя! Жадаю надалей трымацца за свабоду поглядаў! Абдымаю вас усіх.

***

Калі вам ёсць што сказаць пра «Рэгіянальную газету», тэлефануйце ў рэдакцыю (8-0176) 53-78-06, пішыце на e-mail regionnews@rh.by або на адрас: 222310, г.Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518, Мінская вобласць, Беларусь.



А таксама пасціце ў сацсетках з хэштэгам #РГ25!

## Чытайце праз тыдзень:

- **Дзякуючы гэтаму чалавеку ў Маладзечне няма вуліц з савецкімі назвамі, затое ёсць помнік «Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі». У дні, калі звычайна ў Маладзечне адбываецца Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі, прыгадваем стваральніка гэтага свята, колішняга старшыню Маладзечанскага гарвыканкама, былога дырэктара ЗПМ, намесніка старшыні Вярхоўнага Савета 13 склікання, навукоўца Генадзя Карпенку.**

## 30 мая, субота

**Вецер:** паўночна-заходні, 4-5 м/с




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература +1,8°С у 2001 годзе
Максімальная тэмпература +29,6°С у 1995 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 26,8 мм у 1996 годзе

Паводле meteoinfo.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

## Што вы дарылі настаўніцы пасля заканчэння школы?



**Марыя Баравая, кандытар, Маладзечна:**
– Вы ведаеце, гэта так даўно было. Я скончыла школу ў 1995 годзе. Мне здаецца, што тады мы нічога і не дарылі.



**Ванда Куліцкая, пенсіянерка, Вілейка:**
– Мы дарылі крыштальную вазу і кветкі. Крышталь у той час вельмі цаніўся.



**Наталля Бандарэнка, работніца, Чысць:**
– Скончыла школу каля 20 год таму. Ужо не памятаю, што дарылі настаўніцы. Калі цяпер дарыць, то ўзгаднілі б з класам, але думаю, што гэта быў бы памятны альбом.



**Таццяна Фядчышына, у дэкрэтным адпачынку, Вілейка:**
– Я скончыла школу ў 2007 годзе, але мы нічога не дарылі настаўніцы.



**Дзмітры Гуранкоў, кіроўца, Маладзечна:**
– Скончыў школу больш за 20 год таму. І тады дарылі кветкі.



**Ігар Шкаруба, сацыяльны педагог, Маладзечна:**
– Скончыў 8 класаў у 1980 годзе. У савецкія часы дарылі кветкі. Я не выключэнне.



**Рамуальд Улан, індывідуальны прадпрымальнік, Смаргонь:**
– Гэта было так даўно, у 1982 годзе! Ды і скончыў я не звычайную школу, а фізіка-матэматычную пры МДУ. І дарыў кветкі.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

Апошнія званкі ў рэгіёне пройдуць 30 мая.
А пра выпускныя вечары чытайце на старонцы 2.


Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№22 (1309) 29.05.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 878. Падпісана ў друк у 9.00 28.05.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.